

Пра Быкава ў Гродне →5


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Наш Васіль Юравец →8


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 38 (3045) Год LIX Беласток, 21 верасня 2014 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


— Ці трэба было брацца аж за беларускі міф, каб быць павышаным ці падымацца ўверх у нейкай іерархіі? Ці трэба адмаўляцца ад беларушчыны, каб быць кімсьці большым? — з гэтых пытанняў пачаў журналіст і аглядальнік Павел Смаленскі дэбаты «Беларускі міф» у яго беластоцкай частцы ў рамках фестывалю «Усход культуры — Іншае вымярэнне». У адпаведнасці з гэтым дэвізам трохчасткавае абмеркаванне адбылося ў Крынках у час сёлетняга «Трыялогу», арганізаванага Фондам «Віла Сакрата» па ініцыятыве Лявона Тарасэвіча (мы пісалі аб ім шырока ў жнівеньскіх нумарах «Нівы»). Удзельнікамі дыскусіі ў падляшскай сталіцы былі праф. Станіслаў Шушкевіч, старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі ў 1991-1994 гг. (фактычна ў той час галава дзяржавы), гісторык праф. Алег Латышонак, святар і журналіст Радыё Рацыя Канстанцін Бандарук.



Злева: Павел Смаленскі, Кастусь Бандарук, Станіслаў Шушкевіч, Алег Латышонак, Лявон Тарасэвіч

# Беларускі міф у Беластоку

На пытанні, пастаўленыя ў пачатку Паўлам Смаленскім, адказаў праф. Латышонак:

— Для мяне асабіста праблема адмаўлення ад беларушчыны не існавала. У Беластоку гэтая праблема была больш складаная, але беларусы ад Бельска або Гайнаўкі і ваколіц не мелі праблем са сваёй ідэнтычнасцю. Гэта падстава, з якой можна спазнаваць свет і людзей.

Канстанцін Бандарук, пакуль аднёсся да гэтых пытанняў, спытаўся:

— Ці я павінен казаць па-польску?

З залы прагучала: — Так!

Канстанцін Бандарук:

— А чаму? Вядома, я магу, але гэта не будзе тое. Сакрат Яновіч казаў, што «можаш пісаць як Шэкспір, але калі не на сваёй мове, дык гэта будзе няшчыра».

І працягваў, вядома, па-беларуску:

— Пытанне пра беларускі міф з'яўляецца правакацыйным і таямнічым. Кожны народ стварае аб сабе многія тэорыі. Прадстаўляе тое, што добрае. Гэта называецца нацыянальная міфалогія, а не гістарычная праўда. Гэтая версія, якую хоча бачыць народ перад іншымі.

Ён адзначыў, што вялікім міфам з'яўляюцца стэрэатыпы, якія не адпавядаюць рэчаіснасці. Тут уключыўся Лявон Тарасэвіч:

— На працягу многіх гадоў валадарыў у Беластоку міф пра тое, што мясцовыя ўлады пасля вайны былі беларускія.

### Беларусь спіць?

Станіслаў Шушкевіч, які напярэдадні на Радыё Рацыя прэзентаваў сваю кнігу «Маё жыццё, крах і ўваскрошанне СССР», пачаў з таго:

— Я проста шчаслівы, што тут, на Беласточчыне ёсць беларусы, якія больш усведамляюць сабе, што яны беларусы, чым у маім родным Мінску, у родных вёсках, у Беларусі. Мабыць, яны апынуліся ў такім асяроддзі, што ім прыемна паказаць, што гэта такое сапраўдныя беларусы. Гэта не пярэчыць таму польскаму асяроддзю, якое тут ёсць. Наогул мы тады былі рамантыкамі, калі мы ўчынілі незалежнай дзяржавай Польшчу і Беларусь, дэ-юрэ, фармальна, хаця не найлепш уяўлялі сабе, як будзе гэта далей развівацца. Не ўяўлялі сабе, колькі будзе ворагаў у самой Беларусі. Падобна як ва Украіне. Улады там не былі дастаткова дасведчанымі, каб штодня прымаць захады, каб усведамленне ўкраінскасці мацавалася. А ў нас, у Беларусі, сітуацыя яшчэ горшая, таму што ў нас штодзённа прымаюцца захады, каб гэтую беларускасць павазіць, ліквідаваць. На чале ўсіх абражваючых беларушчыну стаіць наш прэзідэнт. Існуюць у нас жудасныя ўмовы існавання беларушчыны: няма як пасляць дзяцей у беларускую школу, хутчэй можна пасляць у польскую. Мы былі рамантыкамі. Мы не хацелі вінаваціць людзей, што перасталі быць беларусамі, але каб дзеці з дзіцячага садка вывучалі беларускую мову. У той час на Гродзеншчыне ў беларускія школы падпісаліся больш за 80 працэнтаў дзяцей пачынаючых вучобу.

Павел Смаленскі запытаўся ў гэты момант, чым для жыхара Беларусі з'яўляецца беларускі міф і сам у гэтым кантэксце паставіў тэзіс:

— Беларусь спіць.

Станіслаў Шушкевіч пераконваў:

— Існуе беларускі міф, але многія грамадзяне Беларусі аб гэтым не ведаюць ці не хочуць ведаць. Таму што яны перакананыя, што пануе руская мова і расійская ідэалогія і што зручней быць рускім, чым беларусам. Ідзе далей прымусовая русіфікацыі беларусаў, усіх грамадзян на тэрыторыі Беларусі, а не толькі беларусаў. На маю ацэнку 95 адсоткаў насельніцтва Мінска гаворыць на рускай мове. Зараз, калі Беларусь ад гэтага адыходзіць, не падабаецца гэта вялікай Расіі. Расія ў цяперашні час стварае ў Беларусі расійскія інстытуты, каб развіваць рускасць, разуменне рускай літаратуры, мастацтва і г.д. Цяжка сказаць, што будзе далей. Калі палітыка дзяржавы не будзе накіравана на тое, каб мы былі беларускай краінай, то з Беларусі можна будзе стварыць нейкі паўночна-заходні край Расіі. Палітыка Крамля і Лукашэнкі, у яго выпадку, можа, не да канца свядомая, прывядзе да таго, каб гэта было так.

### Парваныя сувязі

Павел Смаленскі:

— Ці быць беларусам у Польшчы, і быць беларусам у Беларусі гэта дзве розныя справы?

Алег Латышонак:

— Беларусь гэта не тая краіна пасля 20 гадоў кіравання Лукашэнкі. Раней мы адчувалі большую сувязь. Цяпер мы ўсё больш і больш чужыя. Я адчуваю, што нашы лёсы сталі адрознівацца і мы сталі іншымі людзьмі (...). Русіфікацыя ў Беларусі на працягу 20 гадоў дасягнула прагрэсу. Калісьці я ехаў туды адпыхацца, цяпер нават мне не хочацца ездзіць.

Канстанцін Бандарук:

— Калі Сакрат Яновіч увайшоў на шлях беларушчыны, сказаў, што ён нялёгкі і прывёў словы сваёй маці, што беларушчынай не наесца. Ён стаяў перад выбарам паланізацыі. Абраў беларушчыну і не ўчыніў багацця са свайго жыцця, але ўзбагаціў нас, беларусаў, якія маюць той жа выбар, перад якім ён стаяў.

Лявон Тарасэвіч:

— Праблема ў тым, што расце ў нас, беларусаў тут, інтэлігенцыя толькі ў першым пакаленні.

Алег Латышонак:

— Працуе міф паляка, які змагаецца за незалежнасць. Хто не змагаўся за яе, выдаляецца на палі. «За мяжой» — габрэі і беларусы, таму што яны дапамаглі стварыць камуністычную ўладу.

Канстанцін Бандарук:

— Калісьці мне было сорамна азвацца на вуліцы па-беларуску, а цяпер ужо не. Наступіла змена. Можа нас, беларусаў, менш, мала нашай інтэлігенцыі, але мы больш годныя.

Лявон Тарасэвіч:

— У Польшчы даходзіць да шызафрэніі. Усё, што добрае, прыклейваецца да палякаў: Капернік, Шапэн, Конрад..., але Дзяржынскі ці Браніслаў Камінскі, што ліквідаваў Варшаўскае паўстанне, гэта не палякі.

### Дабіць слабейшага

Павел Смаленскі вярнуўся да думкі Станіслава Шушкевіча:

— Цяжка быць беларусам у Польшчы, але гэта «вакацыі» ў параўнанні з тым, як быць беларусам у Беларусі.

Тут Станіслаў Шушкевіч нагадаў пачаткі 1990-х гадоў у Беларусі і кароткі перыяд свабоды і дэмакратыі да прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі, калі ён фактычна стаў на чале дзяржавы:

— Калі зараз я слухаю Радыё Свабода, аказваецца, што ледзь ці не адзіны вінаватым, што Беларускі народны фронт не дасягнуў перамогі ў беларусізацыі Беларусі і ўвогуле будаўніцтве незалежнай беларускай дзяржавы, з'яўляецца тое, што з дрэнна дзейнічаў. Як можна было зрабіць Беларусь беларускай, калі ў Вярхоўным Савеце першага склікання, у якой было 360 месц запраектаваных і 343 месц занятых, засядала 30 чалавек — высокаінтэлектуальных беларусаў на чале з Зянонам Пазьняком. Яны сапраўды шчыра кахалі і кахаюць — хто яшчэ жывы — Беларусь і хацелі будаваць беларускую

працяг ☞10





# Ціхі куточак

За год да прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, праўдападобна, на іх усе паставілі тлусты крыж. Знішчэнне сістэмнай апазіцыі, татальная зачыстка палітычнага поля за дваццаць гадоў прывяла да таго, што дэмакратычныя сілы фізічна і маральна не ў стане арганізаваць сур'ёзную выбарчую ці тым больш пратэставую плошчавую кампанію. За гэты перыяд апазіцыя перажыла сур'ёзны крызіс лідараў — адны з іх выпхнуты ў эміграцыю, той-сёй за кратамі, а іншых ужо няма ў жывых. Зараз рэшткі палітычных партый і аскепкі розных рухаў спрабуюць нешта ці некага вылучыць, спрачаюцца ў сваіх вузкіх колах пра адзінага ці шматгаловага кандыдата. Ідуць гутаркі пра кангрэс аб'яднаных дэмакратычных сіл, але паразумецца вялікія стратэгі ніяк не могуць. Ды што там агульны кангрэс — вунь партыя БНФ, некалі самая ўплывовая, вялікая і разгалінаваная ў краіне, не можа правесці нават свайго чарговага з'езду па той прычыне, што ўлады папросту блакуюць яго правядзенне, не даючы ў арэнду ніякага памяшкання. „Зачыстка" дэмакратычных правоў падышла да сваёй завяршальнай стадыі — засталося толькі закрыць недзяржаўныя арганізацыі і партыі, а значыць фактычна забараніць іх дзейнасць. Шкада, што Куба намнога раней перахапіла сабе найменне „Востраў свабоды", прыдуманае ні то неўміручым камандантэ Фідэлем, ні то крамлёўскай прапагандай розных там суславых. А то РБ непазбежна такназвалася б...

Заложнікам такой дзяржаўнай палітыкі, калі нічога і нікому ў сістэмным уладкаванні памяняць немагчыма, стаў і сам нязменны кіраўнік краіны. Зусім нядаўна начальнік Рэспублікі Беларусь з толькі яму ўласцівай шчырасцю публічна прызнаўся, што за дваццаць гадоў вельмі стаміўся ад гэтай улады і хацеў бы знайсці сабе нейкі ціхі куточак, каб адпачыць ад „гэтага ўсяго". Толькі ці магчымы гэты ціхі куточак на так званым „астраўку стабільнасці", на „клачку зямлі", ці на балоце, як называюць Беларусь з іншага боку. Першаму і адзінаму прэзідэнту няма куды падзецца з гэтай падводнай лодкі пад назвай РБ-1994, нават каб сапраўды хацеў сысці — Крэмль не адпусціць. Застаецца дрэйфаваць ранейшым курсам. І курс гэты відавочна не на захад — у Еўропу.

Так што ясна як у вераснёўскі сонечны дзень — ніякіх выбараў у 2015 годзе не будзе, бо не будзе ніякіх змен у заканадаўства, апазіцыя трапіць у склад выбарчых камісій, якія падлічваюць галасы, не зможа — а значыць кожны ўдзел у выбарчым спектаклі непазбежна асуджаны на праваал. Таму ёсць ужо галасы з заклікам пакінуць уладу сам на сам з такімі „выбарамі-вырабамі". Канешне, вылезе як мінімум адзін „канструктыўны" нібыта апазіцыйны палітык, які кожныя пяць гадоў прэцца на сцэну са сваёй квазіпартыяй, але яго ўжо ўсе даўно „раскусілі" і яго роля статыста неістотная.

Такой тактыкі абсалютнага няўдзелу дэмакратычная апазіцыя яшчэ ніколі не трымалася, ды і ўвогуле звыкла лічыцца, што кожны ўдзел у выбарчым працэсе — карысны. Толькі вось беларуская рэчаіснасць гэтага тэзісу неяк ніяк не пацвярджае. Ды і настроі грамадства пасля 2010 года істотна перамяніліся. Калі тады градус жадання перамен у кіраўніцтве дзяржавай быў дастаткова высокім, то цяпер грамадства сур'ёзна напалохане развіццём падзей ва Украіне. Відавочна, што насельнікі Беларусі кіруюцца і жывуць найперш прынцыпам „сядзі ў будзе і чакай, што будзе". Усе спадзяюцца неяк перасядзець у сваім „ціхім куточку" і змен баяцца. Адны баяцца страціць сваю мінімальную стабільнасць у выглядзе кавалка хлеба і міскі поліўкі, іншыя баяцца брутальнага прыходу на беларускія землі расійскіх „дабрадзеяў", якія ўжо больш паўтысячы гадоў амаль бесперапынна вядуць сваю акупацыйную палітыку. Агульная ж эканамічная сітуацыя пагаршаецца няўхільна, але ніяк не рэзка, так што чакаць нейкай сацыяльнай актыўнасці, выяўлення пратэставых настрояў бліжэйшым часам зноў жа не даводзіцца.

Застаецца толькі ўсім нам асэнсаваць — ці мы сапраўды жывем у ціхім куточку ці папросту загнаныя ў кут, у тупік...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Якія рацыі?



Той факт, што Уладзімір Уладзіміравіч Пуцін упаў на галаву, зусім не абазначае, што ўвесь свет перавярнуўся з ног на галаву. Ёсць, як было, будзе, як ёсць. Прырода чалавека нязменная. Ёю заўсёды кіравалі логіка розуму, эмоцыі сэрца і іх сэнсоўны (рэдка) баланс. У любым выпадку, іх узаемны і тонка збалансаваны ўплыў адзін на аднаго неацэнены. А неацэнены таму, што не спосаб дакладна вызначыць, што гэта сапраўды штурхае чалавека да вялікіх ці брыдкіх учынкаў, добрых ці дрэнных. Логіка або эмоцыя? Спроба адказаць на гэтае пытанне, несумненна, дала б тую ж спрэчку, як тая, што было першым — курыца, ці яйка. Працягваецца яна з самага пачатку чалавечай цывілізацыі і канца ёй не відаць. Хоць з іншага боку можна разглядаць як на далоні, што, калі маюцца два чалавекі, ёсць і дзве розныя рацыі. І гэта, верагодна, невычэрпная крыніца антаганізму. Хоць антаганізм паміж двума асобамі можа разглядаць прыплюшчыўшы вока, як у выпадку Каргуля і Паўляка з кінафільма «Усе свае», а калі ж справа даходзіць да двух суседніх народаў — гэта ўжо бязрадасная справа. Расіяне ўпэўнены ў сваіх меркаваннях, і не менш упэўнены ў сваіх украінцы. У іх спрэчцы няма пачуцця гумару, таму што ў яе выніку гінуць людзі. Хоць, з іншага боку, прыходзіць да мяне такая думка, што калі б украінцы і расіяне, і наогул людзі, мелі больш дыстанцыі да ўласнай і жалюгоднай сур'ёзнасці, то на свеце не было б войнаў і бессэнсоўнай бойні. Хапіла б на каліўца больш гумару, і чалавечае жыццё стала б лепшым для вытрымкі. У той жа час таксама з пачуццём гумару трэба захаваць умеранасць. Што, калі вялікім нягоднікам называць Сталіна? Толькі што ён кумір Уладзіміра Уладзіміравіча. Здаецца, таксама і Аляксандра Рыгоровіча. Ну, тады гульня пацешнымі словамі перастане быць смешнай. Што не значыць, што пазбаўленай гумарыстычнай логікі.

Логіка павінна быць азімутам усіх нашых дзеянняў. Але наўрад ці хто кіруецца гэтым прынцыпам. Таму бязмэтна бадзяемся з нашым балючым жыццём па бездарожжах свету. Будыцкая рэфлексія ставіць справу ясна: праклятыя той, хто робіць два разы тую ж памылку. На жаль, але я думаю, што кожны з нас у адпаведнасці з гэтым указаннем... праклятыя. Логіка адно, другое эмоцыі. Мы дзейнічаем хутчэй пад уплывам моцных эмоцый, часта непрыемных і разбуральных. У іх няма з разуменнем класічнай логікі нічога супольнага, хоць, несумненна, вынікаюць з нейкіх лагічных прадпасылак. Фізічная канструкцыя чалавека абапіраецца, агульна, на дзве калоны: розум і сэрца. Тым не менш, чысты розум прывёў бы наша існаванне да спекулятыўнага Абсурду. Неўзабаве людзі сталі б бялагічнымі механізмамі, пазбаўленымі ўсякага пачуцця гумару. А само сэрца загнала б нас назад у пячоры, дзе мы вегетавалі б, факт, што згодна з Натурай і герметычнымі абычаямі першабытнай супольнасці. Факт, што качаючыся ад рогату. Але на як доўга?

Часта пытаемся з сумненнем аб сэнс жыцця, забываючы, што чалавечую экзістэнцыю напаўняюць наўмысныя мэты. Трэба іх толькі намеціць. Гэта, мабыць, вышэйшая задача чалавека. Так вось для адных сэнс жыцця дае вера ў Бога, у сям'ю, у дабро; для іншых — кар'ера, падарожжы, улада. Сэнсоўнымі, што не абазначае да канца лагічнымі, могуць быць таксама нашы мары, ідэі і надзеі. Чым больш сэнсаў мы пазначым у нашым існаванні наўмыснымі, тым больш наша жыццё напаўняецца сэнсам. Для многіх з нас, аднак, і гэтага недастаткова, каб жыць. Паводле нядаўняй трывожнай справаздачы Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, кожнае 40 секунд хтосьці здзяйсняе самагубства. Па калькаснай шкале гэта абазначае, што кожны год адбірае сабе жыццё больш людзей, чым гіне ў выніку забойстваў, ваенных канфліктаў, дарожных аварый і стыхійных бедстваў. Гэтая тэндэнцыя захоўваецца на працягу многіх гадоў. У гэтых адносінах няма дазволу на пачуццё гумару. Патрэбны затое вялікі лямант, таму што шкода кожнага нявыздзейсненага жыцця. Жыцця без сэнсу. Сярод 20 краін найбольш пацярпелых ад самагубстваў — шэсць еўрапейскіх, у тым ліку Беларусь, Расія, Украіна і Польшча. Ці трэба войнаў, каб зможклі ўсе спрэчкі? І за якія рацыі?

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Камітэты ўжо зарэгістраваныя

Завяршылася рэгістрацыя выбарчых камітэтаў для ўдзелу ў самаўрадавых выбарах, якія адбудуцца 16 лістапада. Выбарчыя акругі ў пераважнай большасці будуць аднамандатнымі і такім чынам мандаты атрымаюць канкрэтныя кандыдаты, якія набяруць найбольшую колькасць галасоў. Інакш будзе ў трох найбольшых — шматмандатных — акругах: Беласток, Ломжа і Сувалкі. Афіцыйна камітэты пачалі ўжо выбарчую кампанію. Сваіх кандыдатаў вылучаюць не толькі палітычныя партыі, але таксама кааліцыі, згуртаванні і групы выбаршчыкаў. Камітэты павінны прад'явіць спісы кандыдатаў у радных у тэрміне да 7 кастрычніка, а прэтэндэнтаў на пасады прэзідэнтаў гарадоў, бургамістраў і войтаў — да 17 кастрычніка. У Падляшскім ваяводстве зарэгістравалася ўсяго 480 камітэтаў, у тым ліку 69 гэта камітэты, якія сваім дзеяннем ахопліваюць усё ваяводства, астатнія — толькі гміны.

Найбольш заяў на рэгістрацыю паступіла ў дэлегатуру Краёвага выбарчага бюро ў Беластоку — 207 і гэта на чатыры менш чым на папярэдніх самаўрадавых выбарах. Як паведаміў нам дырэктар Беластоцкай дэлегатуры КВБ Марк Рыбнік, толькі адзін камітэт мусіў устараніць фармальныя недастаткі. З ліку ўсіх камітэтаў заяўленых у Беластоку 27 ахоплівае ўсё ваяводства, аналагічна ў Ломжы на 151 — 20, а ў Сувалках на 122 — 22. Падобна як на папярэдніх выбарах Дзяржаўная выбарчая камісія зарэгістравала ў нашым рэгіёне (так як і ва ўсёй Польшчы), многа камітэтаў з прыметнікамі ў назве, што мае прадвяшчаць характар гміны ці павета пасля выбарчай перамогі: прыязны, наш, звычайны, малады...

Сёлетняй выбарчай неспадзяванкай стала ўзнікненне выбарчага камітэта Тадэвуша Трускаляскага, які кіруе горадам ужо два тэрміны і дасюль карыстаўся падтрымкай Грамадзянскай платформы. Здаецца, былі спробы пераканаць яго не засноўваць свайго камітэта, аб чым хадзілі чуткі з ранняй вясны. Канчаткова выбарчыя камітэты дасюлешняга прэзідэнта горада і Грамадзянскай платформы будуць сапернічаць паміж сабою на выбарах у Гарадскую раду Беластока. Лідарамі выбарчага спіска камітэта Тадэвуша Трускаляскага будуць Адам Палінскі, адзін з дасюлешніх яго намеснікаў, і былы старшыня дэпутацкага клуба ПіС Гарадской рады Рафал Рудніцкі (які нядаўна выйшаў з гэтай партыі). За пасаду прэзідэнта горада Беластока будуць яшчэ змагацца старшыня Сувальскай эканамічнай зоны Роберт Жылінскі, былы падляшскі ваявода, а цяпер сенатар ПіС Ян Дабжынскі, лідар СЛД у Падляшскім ваяводстве Кшыштаф Біль-Ярузельскі і Тамаш Шэвелюк, які балатуецца ад Кангрэса новай правіцы. Свой спіс кандыдатаў у дэпутатаў Гарадской рады аб'явіла ўжо Грамадзянская платформа. Падобна як і раней балатавацца з яго будуць прадстаўнікі Форуму меншасцей Падляшша. У адпаведнасці з аднаўленай кааліцыйнай дамовай на другім месцы на спісках кандыдатаў у дэпутаты апынуцца Ян Кахановіч, Адам Мусюк, Стэфан Нікіцюк, Марк Масальскі і Славамір Назарук.

У ліку кандыдатаў, якія балатуюцца са спіскаў камітэта Тадэвуша Трускаляскага, на далейшых месцах апынуліся малавядомыя асобы: прадпрымальнікі Мацей Дамброўскі і Каміль Чыжык ці працаўнік беластоцкага школьніцтва Лукаш Амброжай.

— Адгукнуліся яны на запрашэнне прэзідэнта, які папрасіў падтрымкі ў ангажаваных у яго справы жыхароў горада, — прэзентаваў іх на прэс-канферэнцыі Адам Палінскі, які дадаў, што камітэт Тадэвуша Трускаляскага падтрымалі шмат арганізацый прадпрымальнікаў, спартыўных і, напрыклад, Саюз сібіракоў.

— Гэты вынік таго, што наш камітэт — звышпартыйны, па-над падзеламі, для людзей, якія хочуць дзейнічаць у карысць горада і не аспрэчваюць рэчаіснасці. А калі ім штосьці не падабаецца, то кажуць: давайце зменім гэта разам, — каментаваў Тадэвуш Трускаляскі.

Напэўна свае спіскі кандыдатаў у беластоцкую гарадскую раду прад'явіць Выбарчы камітэт выбаршчыкаў «Супрацоўніцтва і давер». Яго заснавальнікі — гэта галоўным чынам былыя дзеячы непрысутныя ў палітыцы на працягу апошніх гадоў: былы старшыня рэгіёна «Салідарнасці» і сенатар Станіслаў Марчук, былы сенатар і член Краёвай рады радыёвяшчання і тэлебачання Ян Шафранец, былая сенатар Клуба каталіцкай інтэлігенцыі Барбара Лэнкава, былы дзеяч Лігі польскіх сем'яў Артур Мілеўскі. Усе яны звязаны з каталіцка-правым асяроддзем. Яны самі (верагодна) балатавацца не будуць, толькі хочуць падтрымаць маладых.

Свой выбарчы камітэт зарэгістравала, між іншым, Федэрацыя зялёных. Адзін з яе лідараў Рафал Косна патлумачыў мас-медыям:

— Удзел у выбарах стварае нам магчымасць заіснаваць у спадарожнічаючых ім публічных дэбатах, прадставіць пункт гледжання тых, чый голас звычайна не бывае чутны.

Здаецца, што большасці асоб з зарэгістраваных выбарчых камітэтаў ідзе менавіта не пра перамогу, а пра магчымасць публічнага (таксама праз пасрэдніцтва СМІ) прадстаўлення сваіх поглядаў, сваёй уявы будучыні, а таксама жаляў. А беларусы? Не будзе ў гэтых выбарах беларускага камітэта. Аднак напэўна будуць яны балатавацца са шматлікіх спіскаў — ад правага да левага боку палітычнай сцэны; таксама і са спіскаў непалітычных з назвы камітэтаў, але толькі з назвы, паколькі аб апалітычнасці самаўрада ўсё ж гаварыць не прыходзіцца.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# У ЗДАРОВЫМ ЦЕЛЕ — ЗДАРОВЫ ДУХ


Сабраныя куплялі казінае малако з Сакоў і іконкі матушкі Елізаветы з Залешанаў

На III Фэст здароўя пад лозунгам «У здаровым целе — здаровы дух», які 31 жніўня ў гарадскім парку ў Гайнаўцы арганізавала гайнаўскае аддзяленне Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія, прыбыло многа людзей сярэдняга і старэйшага ўзросту. Удзельнікі фэсту, між іншым, правяралі сабе ціск крыві і ўзровень цукру, рабілі пакупкі і ахвотна слухалі беларускія і ўсходнеславянскія песні. Бацькі з дзеткамі адпачывалі ў гарадскім парку, а іх малечы бясплатна карысталіся дзіцячым гарадком гульняў. Сабраныя таксама куплялі духоўную літаратуру, мёд ад айца Гаўрыіла са скіта на паўвостраве Кудак, казінае малако (ад коз, што гадуюцца на тэрыторыі Мужчынскага манастыра св. Дзмітрыя Салунскага ў Саках), ці іконкі матушкі Елізаветы з Жаночага манаскага дома ў Залешанах. Прадавалася смачнае здаровае харчаванне, а жанчыны мелі магчымасць прыняць удзел у конкурсе на самы лепшы пладовы прадукт з агародніны.


Выстава агародніны, якую паказвала Марыя Ляшчынская (на здымку) і конкурс на самы лепшы пладовы прадукт з агародніны

У мінулых гадах у час фэсту калектывы выступалі ў гарадскім амфітэатры ў цэнтры парку, але сёлета якраз праводзілася яго мадэрнізацыя. Па гэтай прычыне выступленні адбываліся на траве, што стварала лепшы кантакт паміж выканаўцамі і публікай. Фэст здароўя адкрыў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, суарганізатар мерапрыемства і яго фундатар, які пахваліў ідэю прапагандавання здаровага ладу жыцця. У мерапрыемстве прынялі ўдзел старшыня Гарадской рады Гайнаўкі Якуб Астапчук, член управы Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія Люцыя Німяровіч і апякун гайнаўскага аддзялення брацтва айцец Марк Юрчук.

— Арганізуючы фэст здароўя, мы прапагандуем здаровы лад жыцця, набліжаем удзельнікам мерапрыемства ідэі жыцця ў духу праваслаўя, якія не зводзяцца толькі да малітваў і змагання з грахамі. Сёння мы робім шырокую прамоцыю для Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія, якое выходзіць з рознымі прапановамі да грамадства, паказваем культуру і традыцыі праваслаўных людзей. Мы раім дбаць адначасна пра здароўе душы і цела, таму прапануем чытаць духоўную літаратуру, заняцца спортам, сачыць за станам здароўя, рэгулярна наведваць лекараў. Таму лозунг фэсту — «У здаровым целе — здаровы дух», — сказала намеснік старшыні гайнаўскага аддзялення брацтва Ева Рыгаровіч і заадно гайнаўская радная. Яна па прафесіі медсястра і таму рашылася стаць адказнай за арганізаванне фэсту здароўя.

Беларускі калектыў «Рэха пушчы» Гайнаўскага дома культуры выступіў займальна і быў горача ўспрыняты публікай. Працаўнікі гайнаўскага аддзялення Ваяводскай станцыі хуткай дапамогі паказвалі як ратаваць жыццё людзей падчас страты прытомнасці, а вучні, якія пад наглядам Якуба Астапчука паспяхова займаюцца дзюдо ў Спартыўным клубе «Зубр» у Гайнаўцы, запрэзентавалі свае ўмеласці па гэтым відзе спорту. Цікава запрэзентаваліся беларускі калектыў «Ручаёк» з Белавежы і ўкраінскі калектыў «Гілачка» з Чаромхі. З вялікай ангажаванасцю выступілі дзяўчаты і жанчыны з фітнес-клуба «ActiveLine» з Гайнаўкі.

Мёд і гарбаткі ад архімандрыта Гаўрыіла, які жыве ў скіце на паўвостраве Кудак і сёлета не мог прыехаць на фэст, прадаваў Юры Рыгаровіч. Паведаміў ён, што асобы, якім патрэбныя духоўныя і лячэбныя парады, могуць наведваць айца Гаўрыла ў скіце па серадах. Іераманах Уладзімір і паслушнік Якуб з манастыра ў Саках прадавалі казінае малако і малочныя вырабы. Іконкі і духоўную літаратуру прадавала матушка Елізавета з манаскага дома ў Залешанах.

— Слава Богу, будуецца наш дом паломніка, бо ёсць людзі добрай волі, якія дораць нам сродкі на яго пабудову. Людзі, якія самі ўмеюць выконваць будаўнічыя працы, прапануюць нам бясплатную дапамогу. Прыязджаюць да нас дзяўчаты, якія цікавяцца манаскім жыццём і хочуць адпачыць ад гарадскога стылю жыцця, — гаварыла матушка Елізавета, якая прапанавала кніжку «Там, дзе не відаць Бога» Нікалаоса Хаджынікалау. Выдадзена яна Жаночым манаскім домам у Залешанах, а пераклала яе з грэчаскай мовы на польскую матушка Елізавета. У кніжцы паказаны прыклады з жыцця людзей, якіх спасцігла хвароба, якія турбуюцца за хворых сямейнікаў або не могуць змірыцца са смерцю блізкіх ім асоб. На падставе гэтых здарэнняў можна шукаць адказаў на нашы пытанні, вырашаючы жыццёвыя праблемы.

Дзяўчаты з калектыву «Астэрыя» Дома праваслаўнай культуры ў Бельску-Падляшскім выступілі двойчы і захапілі публіку радаснымі песнямі. Вялікае прызнанне слухачоў атрымаў калектыў «Гармонь» з Ласінкі, які існуе ўжо чатыры гады. Сёлета заняў ён першае месца ў сваёй катэгорыі на Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы і Фестывалі «Беларуская песня» ў Беластоку. Частку яго ўдзельнікаў складаюць самадзейнікі, якія раней спявалі ў мясцовых дзіцячых і маладзёжных гуртах «Заранка», «Рамонак» і «Лісічкі», аб чым удакладніла Агнешка Андраюк.

— Мы развучваем і выконваем песні, якія спявалі нашы бацькі, — сказаў Раман Пашко з калектыву «Гармонь».

Лякарствы, выкананыя на аснове натуральных кампанентаў, а таксама *святасці* прапанавалі манашкі і паслушніцы Свята-Елізавецінскага жаночага манастыра з Навінак каля Мінска і Свята-Мікалаеўскага жаночага манастыра з Гарадка каля Роўнага на Украіне. Медсёстры Самастойнага публічнага комплексу аховы здароўя ў Гайнаўцы мералі жадаючым ціск крыві і ўзровень цукру. Доўгі час выстойвала да іх чарга людзей, перш за ўсё старэйшага ўзросту, якім важна часта правяраць паказчыкі стану здароўя. Ахвотныя здавалі таксама кроў.

— Я купіў мёд ад айца Гаўрыіла, каб падтрымаць развіццё скіта на паўвостраве Кудак, — заявіў Міраслаў з Гайнаўкі.

Працавала палатка з кніжкамі Гайнаўскага выдавецтва «Братчык», якое ўзначальвае Марк Якімюк. Удзельнікі фэсту куплялі кніжкі з духовымі парадамі і жыціі святых.

Перад публікай выступіў калектыў «Сказка» з Беластока, танцавалі вучні, якія займаюцца ў калектыве «Перапёлка» Гайнаўскага дома культуры. Мерапрыемства вяла Марта Назарка, а за ходам выступаючых сачыла і арганізацыйныя праблемы вырашала Ева Рыгаровіч, віцэстаршыня гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія. Брацтва ладзіць яшчэ пешаходныя і аўтамабільныя паломніцтвы па Польшчы і ў замежныя краіны, арганізуе культурныя і адукацыйныя сустрэчы, ёлачныя і адпачынкова-забаўляльныя мерапрыемствы для дзетак. На зломе ліпеня і жніўня гэтага года брацтва арганізавала другое пешаходнае паломніцтва са Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы ў Пачаеўскую лаўру, нягледзячы на ваенныя дзеянні ва Украіне.

— З Гайнаўкі ў Пачаеў выйшла 18 адважных паломнікаў, якія разумелі, што могуць сутыкнуцца на тэрыторыі Украіны з небяспекай. Да мяжы Польшчы з Беларуссю суправаджаў нас айцец Марк Якімюк з Чыжоўскага прыхода. У яго не было транзітнай візы на тэрыторыю Беларусі і з граніцы ён вярнуўся дамоў. У Рэспубліцы Беларусь апеку над намі пераняў айцец Назарый з манастыра ў Роўным, які ішоў з намі ажно ў самую Пачаеўскую лаўру. Зараз пасля перасячэння першай мяжы, далучыліся да нас жыхары Беларусі і спачатку было нас ажно 167 чалавек. Многія з іх ішлі з намі па тэрыторыі Беларусі, а некаторыя нават рашыліся ісці да канца паломніцтва. Ва Украіне далучаліся да нас новыя паломнікі і ў Пачаеўскую лаўру прыйшло нас ажно 427 чалавек. Як падзяку за арганізаванне міжнароднага паломніцтва, на святкаванні ў гонар іконы Пачаеўскай Божай Маці архімандрыт Варнава падарыў Праваслаўнай царкве ў Польшчы менавіта вялікую ікону Пачаеўскай Божай Маці, — сказала Ева Рыгаровіч, галоўны арганізатар паломніцтва. — У Пачаеўскую лаўру ішлі таксама паломнікі з Украіны. У паломніцтве з Камянца-Падольскага прыйшло ажно каля 7 тысяч чалавек.

Цікавымі былі выстава агародніны Марыі Ляшчынскай і конкурс на самы лепшы пладовы прадукт з агародніны. Да конкурсу прыступілі асоб пад пятнаццаць, а першае месца атрымала Аліна Мішчук, другое месца заняла Валянціна Вяжбіцкая, а на трэцім месцы апынулася Марыя Лавіцкая.

— Усе ацэньваныя пладовыя прадукты з агародніны былі вельмі смачнымі, а многія з іх арыгінальнымі. Пераможцы конкурсу атрымалі вартасныя ўзнагароды, прыдатныя для працы ў агародзе або садзе, — заявіла член конкурснай камісіі Іаанна Кірылюк.

Зоркай фэсту быў калектыў «Прымакі» з Міхалова, якога выступ вельмі спадабаўся публіцы.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**



# Дажынкі з цэпам і эмбарга на фоне

Апошні нядзельны аўтобус ПКС з Беластока ў Гарадок перад распачынаючымся пасля поўдня на заліве ў Зарэчанах гмінным святам ураджаю вёз толькі журналіста «Нівы». Аўтобус не быў памечаны ў раскладзе. Перад гарадоцкім Гмінным цэнтрам культуры чакаў мікрааўтобус. Аднак зайшлі ў яго толькі некалькі спявачак аднаго з калектываў, што мелі выступіць праз некалькі дзясяткаў хвілін. Яны шапталіся між сабой: «Усе, верагодна, паехалі на сваіх аўтамабілях. О, я думаю, што мала людзей прыйдзе. Заўтра раніцай трэба ў школу, на працу».

Перад ГЦК некалькі мясцовых жыхароў распытвала:

— А карагода па вуліцах не будзе ад дома культуры, як гэта было раней, перад дажынкамі ў Залуках?

Не было.

Мікрааўтобус праязджаў побач прадуктовага маркета, на сцяне якога красавалася рэклама Сакольскага малочнага кааператыва. Заахвочвала купляць тавары, якія падпадаюць пад расійскае эмбарга. На фота рэкламныя пакеты сыроў «Гоўда» і «Эменталер» па-руску. 7 верасня сёлета сціплае гарадоцкае шэсце ў свята ўраджаю пасля малебнаў у каталіцкім і праваслаўным храмах з толькі некалькімі вянкамі рушыла з-за велізарнага надзьмутага замка для дзяцей каля сцэны, адкуль даў пароль да маршу, як звычайна, бездакорна апрануты ў касцюм і гальштук дырэктар ГЦК Юры Хмялеўскі, пазней заахвочваючы з цэпам у руцэ, каб удзельнічаць у збіванні цэпам паветраных шароў, лічэнні зерня збожжа на час, рэле 3 х 40 метраў з хамутамі. Карагод прайшоў побач велізарнага рэкламнага шара спонсара мерапрыемства «Gaz-System», які далучаецца да пашырэння газакампрэсарнай станцыі ў Баброўніках, дзякуючы чаму гарадчане, мабыць, гэтымі газавымі паслугамі будуць карыстацца. Заключала шэсце пяць жанчын з ансамбля «Стрыхаўскія чараўніцы» са Стрыхава (850 жыхароў) пад Кобрынам (55 тыс. жыхароў), у ярка-чырвоных касцюмах з аздобамі, чыста ў народна-эстраднай расійскай канвенцыі. Удзельніцы групы Ніна Задворная і Дыяна Вышынская да выступлення распавялі нам пра сябе:

— Мы ўзніклі год таму і таму, што ўсе любім заўсёды спяваць. Калі ў нас быў першы канцэрт, з залы прапанавалі нам назву, і ўхапілі мы яе. У цяперашні час мы працуем у музычнай школе і доме культуры. У рэпертуары маем народныя беларускія і рускія песні, у сучаснай апрацоўцы. Гэта такі фольк-мадэрн.

Лідарка каманды, а таксама яе сяброўка Людміла Мядзведзева дадала:

— Мы вельмі творчыя людзі. Да стварэння калектыву кожная з нас спявала асобна. Карыстаемся вялікай папулярнасцю і шмат выступаем. Наш першы канцэрт адбыўся на галоўнай сцэне Палаца культуры ў Кобрыне. У летні час мы не раз былі ў Польшчы, але ў Гарадку мы першы раз. Спяваем пад фанаграму «мінус адзін».

Па традыцыі, на чале карагода ішлі стараста і старасціха — Павел Каханові́ч з вёскі Белявічы і яго суседка з вёскі Гражына Шэрэмэта. Стараста вядзе ў сваёй гаспадарцы, што амаль у сто гектараў, малочную ферму:

— Маем семдзесят малочных кароў, але і кукурузу, трохі збожжа і лугі.

Спадар Павел, як многія фермеры, ужо адчуў паслядоўнасці нядаўніх расійскіх абмежаванняў на польскія прадукты, таксама малочныя:

— Цана малака ўпала і, верагодна, яшчэ пойдзе ўніз. Невядома, ці будзе гарантаваны прыём малака. Наша малачарня ў Саколцы супрацоўнічае з Расіяй і ішло туды шмат прадуктаў. Цяпер усё захоўваюцца на складах і невядома што рабіць з прадукцыяй, таму што этыкеткі на ёй на рускай мове. Свінская чума таксама нас закранула. З-за гэтай хваробы на дзікоў не палявалі і ў сувязі з гэтым пацярпела кукуруза. На пачатку таксама былі праблемы з быдлам, не хацелі браць цялят і ўсю жывёлу з фермаў забаранілі вывозіць, таму што мы ў буфернай зоне.

Таксама амаль пяцідзесяцігектарная ферма старасціхі аснавана на вытворчасці малака:

— Зніжэнне цаны на малако вельмі прыкметнае. Мы з нецярпеннем чакаем, як гэта будзе развівацца далей. Я спадзяюся, што не так рэзка. Мусім вырабляць, якая б цана не была, таму што ў нас ёсць абавязацельствы, і трэба іх выконваць. Пакуль на нашай ферме з-за эмбарга страты складаюць 20-30 адсоткаў. Ну, паглядзім, што адбудзецца далей.

Перад сцэнай бохан хлеба старосты перадалі войту Гарадоцкай гміны Веславу Кулешу, які чацвёрты раз будзе прэтэндаваць на мясцовых выбарах восенню на гэтую пасаду і пакуль вядомы яму адзін канкурэнт — адстаўны пагранічнік Ежы Грыц. З цяперашнімі раднымі заснаваў ён выбарчы камітэт. У ягонай гміне выяўлены выпадкі афрыканскай чумы свіней, таксама ў дзікоў (вірус АЧС). З нагоды свята ўраджаю войт расказаў «Ніве» пра дзеянні, якія былі зроблены ў сувязі з чумой:

— Нашай задачай было ажыццяўленне рэкамендацый павятовага ветэрынара і падляшскага ваяводы. Мы павінны былі пазначыць месцы, вызначыць зоны заразнага паветра і пагрозы, і на мяжы заразнага паветра прыйшлося пакласці дэзінфекцыйныя дыванкі і навільгатняць іх у вызначаныя прамежкі часу. Нашы жыхары прынялі ўдзел у якасці экспертаў пры ўтылізацыі свіней. Надалей назіраецца гэтая з'ява і стараемся дайсці да ўсіх з інфармацыяй. У сувязі са свінской чумой мы выбілі ў гміне каля 190 свіней у адпаведнасці з рашэннем павятовага ветэрынара. У нас няма даных колькі ўсіх свіней у нас гадуюць.

Таксама згадаў расійскае эмбарга:

— Генеральна яго паслядоўнасці ў нас не такія прыкметныя ў параўнанні з тымі гмінамі, дзе маюцца вялікія фермы.

Выступленні на сцэне пачаліся з дажынкавага аповеду і канцэрта калектыву «Каліна» з удзелам Сцяпана Копы ў якасці акардэаніста. На сцэне дэманстраваліся чарговыя калектывы, а паміж азярцом і лаўкамі гледачоў разыгрываліся абвешчаныя дырэктарам Хмялеўскім спаборніцтвы.

— У майго бацькі цэп дасюль ляжаў у клуні, уцісенуты пад дахам паміж бэлькамі. Сам у маладосці я яго выкарыстоўваў, — не хавае свайго гонару ў гутарцы з намі адзін са збівачоў шароў цэпам, дадаючы са смехам. — Зараз такі цэп можа служыць толькі да такіх гульняў.

Вечарам — нягледзячы на папярэднія меркаванні жанчын з «Каліны» — шматлікія ўдзельнікі мерапрыемства гулялі пры музыцы гурта «Smokhin Band» з Лодзі, які іграў кампіляцыю джаз, фанк, рок-н-рол, і ўсходняга фольку (у асноўным расійскага), а пасля — дыска-польнага вясельнага «Xfort».

Апошні аўтобус з Гарадка ў Беласток быў запоўнены амаль да краёў. Многія пасажыры на каленях трымалі кошыкі з баравікамі і махавікамі.

— Засуха ў апошні час. Толькі тры невялікія вядзерцы я сабрала сёння, — скардзілася пажылая жанчына другой пасажырцы.

— А пліскі дарагія на рынку, па 18 злотых, — адказвала іншая.

А яшчэ іншая паплаквала:

— Я была ў нявесткі. Цяпер з дачкой жыву ў Беластоку. Тры іншыя пахавала, а я ўсё яшчэ жывая, ды трэба жыць.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Дырэктар ГЦК Юры Хмялеўскі






# Да 90-годдзя Васіля Быкава





Фота Міры Лукшы

Злева: Аляксей Пяткевіч, Віктар Швед, Юрка Голуб, Аляксей Дзямідовіч, Ігар Жук

Дзявятыя гарадзенскія навуковыя чытанні 10 верасня 2014 г. былі прысвечаны Васілю Быкаву. Навукоўцы, журналісты, педагогі, бібліятэкары і архівісты ды пісьменнікі выступілі з дакладамі пра творчасць Быкава, яго ўклад у беларускую літаратуру і цікавыя факты з біяграфіі. У рамках мерапрыемства адбыўся паказ дакументальнага фільма «Васіль Быкаў: з фондаў Гродзенскай абласной тэлестудыі» і выстава, дзе паказаны былі кніжкі пісьменніка і пра пісьменніка.

— Гэта год, калі наш горад носіць ганаровае імя культурнай сталіцы Беларусі. А дзе Быкаў у гэтай культурнай сталіцы? Тыя дасціпныя спробы выстаўляць саматужныя шыльдачкі дзе жыў Быкаў, ці штосьці такое, яны, канешне, як раздражняльнікі ў некаторай ступені дзейнічаюць на пэўных асобаў, але ідэя цудоўная, — сказаў прафесар Ігар Жук. — Месцы, звязаныя з жыццём Васіля Быкава, да гэтай пары ніяк не азначаны для турыстаў і жыхароў Гародні, дзе пісьменнік пражыў 31 год свайго жыцця. Творы Васіля Быкава, аднаго з найбольш вядомых беларускіх пісьменнікаў, перакладзены на 50 моў свету. Але да сённяшняга дня няма вуліцы імя Быкава, музей Васіля Быкава носіць грамадскі характар і не мае дапамогі ад улад. І хоць крыўдна можа было грамадскаму дырэктару грамадскага музея Аляксею Дзямідовічу, рупліўцу дзеля памяці вялікага пісьменніка, не ўсе зборы падрыхтаваныя там захоўваюцца па ўсіх правілах музейнай справы.

З дваццаці дакладаў і паказаў, якія прагучалі на канферэнцыі, складзены будзе традыцыйны зборнік, які выдасць арганізатар чытанняў — Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Яўхіма Карскага (184 гадоў існавання). Разглядалася творчасць і асоба пісьменніка ў шырокім ракурсе, ад навукова-крытычных, да практычна-дыдактычных меркаванняў. З дакладамі выступілі даследчыкі (вядомыя таксама на Беласточчыне, паколькі займаліся яны творчасцю аўтараў з нашага боку мяжы ці выкладалі на беластоцкіх вучэльнях, такія як Ала Петрушкевіч, Аляксей Пяткевіч, Святлана Тарасава, Святлана Куль-Сільверстава), практыкі-педагогі (вядомая нашым алімпійцам і настаўнікам поўная харызмы Алена Руцкая), журналісты, бібліятэкары і краязнаўцы. Дарэчы, якраз краязнаўцы, такія як і Віталь Іваноўскі, турбаваліся невыкарыстаннем такіх незвычайных каларытных постацей, як Васіль Быкаў ці Аляксей Карпюк дзеля спрыяння ў прасоўванні мясцовасці. «Чаму ў нас у Гародні няма цэлага комплексу ўказальнікаў: дуб Быкава, месца Быкава, акно Быкава. І такіх указальнічкаў магло быць безліч!» — абураўся Ігар Жук, а Вітальд Іваноўскі як з рукава сыпаў анекдотамі датычнымі волатаў не толькі гарадзенскай пісьменнасці, шкадуючы, што пры іх жыцці сучаснікі не ўсведамлялі важнасці кожнага слова, ліста ці малюнка.

З польскага боку на юбілейныя чытанні ў Гродне прыехаў Віктар Швед з Беластока. Як заўсёды, яго выступленне спалучаецца з вершам, якім ён аздобіў навукова падмацаваны даклад-успамін.

— 19 чэрвеня 2014 года споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння выдатнага прадстаўніка беларускай сучаснай прозы Васіля Быкава, які ў сваіх творах займаўся ў галоўным тэматыкай Вялікай Айчыннай вайны. Яго героі гэта звычайныя людзі, салдаты, партызаны, прадстаўлены без пафасу, звычайна ў драматычных абставінах, патрабуючых крайніх рашэнняў.

Асноўная частка яго твораў была перакладзена на польскую мову. Гражына Харытанюк у сваёй бібліяграфіі „Literatura białoruska w Polsce. Bibliografia przekładów za lata 1945-1994" аднатоўвае, што першы пераклад прозы Васіля Быкава паявіўся ў Польшчы ў 1962 годзе. Быў гэта фрагмент аповесці „Трэцяя ракета". З гэтае бібліяграфіі мы можам таксама даведацца, што літаратурнай творчасцю Васіля Быкава зацікавілася ажно 28 польскіх перакладчыкаў, у тым ліку вядомыя польскія пісьменнікі: Анджэй Бень, Яўгеніюш Кабатц, Віктар Варашыльскі, Ежы Літвінюк, Анджэй Дравіч, ВальдэмарКівільшо, Марэк Ваўжкевіч, Ян Гушча, Чэслаў Сэнюх і іншыя. На польскай мове, пачынаючы з шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя ў кніжных выданнях Польшчы выйшлі з друку наступныя творы Васіля Быкава: „Трэцяя ракета", „Альпійская балада", „Сотнікаў", „Дажыць да світання", „Круглянскі мост", „Абеліск", „Яго батальён", „Воўчая зграя", „Пайсці і не вярнуцца", „Кар'ер", „Знак бяды". Варта прыгадаць што ў 1999 годзе паявілася ў нашым беларускім асяроддзі па-мастацку аформленая кніжка „Сьцяна" ў перакладзе Яна Максімюка і Чэслава Сэнюха. Апрача кніжных выданняў апавяданні і фрагменты аповесцей Васіля Быкава былі публікаваны ў анталогіях і часопісах „Twórczość", „Literatura", „Literatura na świecie", „Życie Literackie", „Krasnogruda" і „Gazeta Wyborcza". У 2006 годзе паявілася на польскім выдавецкім рынку кніжка „Калі вітаюца душы. Паэзія і проза", выдадзеная супольна з вершамі вядомага беларускага паэта Рыгора Барадуліна, таксама адышоўшага ўжо ў вечнасць...

Віктар Швед меў нагоду сустрэцца з Васілём Быкавым:

— Ад даўжэйшага часу марылася мне, каб пазнаёміцца з гэтым таленавітым беларускім пісьменнікам. Быў я неаднойчы ў Мінску ды сустрэцца нам не ўдалося. У днях 23-26 чэрвеня 1992 года пабывала ў Польшчы з афіцыйным візітам дзяржаўная дэлегацыя з Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча. У складзе дэлегацыі быў таксама вядомы пісьменнік і вялікі маральны аўтарытэт Васіль Быкаў. Галоўнай мэтай візіту было падпісанне „Трактата аб добрасуседскіх адносінах і сяброўскім супрацоўніцтве", ды адкрыццё пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве. Вяртаючыся з Варшавы 26 чэрвеня 1992 года Станіслаў Шушкевіч сустрэўся ў канферэнц-зале Ваяводскай управы ў Беластоку з прадстаўнікамі беларускай нацыянальнай меншасці. У сустрэчы прысутнічалі міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка і пісьменнік Васіль Быкаў. Перад сустрэчай падышоў я прывітацца са Станіславам Шушкевічам, з якім быў ужо знаёмы. Прадставіў ён мяне Васілю Быкаву. Пагутарылі мы сардэчна пра новае адраджэнне Беларусі, вялікую надзею і шмат працы, якая чакае беларускі народ, каб вярнуцца да свае мовы, свае культурнае спадчыны, сваіх каранёў. Я, каб пахваліцца, што і ў нас нешта зварухнулася, з вялікаю прыемнасцю ўручыў пісьменніку мой новы паэтычны зборнік „Родны схоў"... Быў гэта першы візіт, калі кіраўніцтва беларускай дзяржавы сустрэлася з беларусамі Беласточчыны, а гэтым самым прызнала існаванне гэтай меншасці ў Польшчы. Сустрэча пакінула ў мяне глыбокі след, які астаўся ў маім сэрцы і прыняў форму верша, які запісаў я 26 чэрвеня 1992 года:

(лук)

*Віктар ШВЕД*

## Ад сэрца да сэрца

*Васілю Быкаву*

*Беларусь пасля няволі даўгавечнай*
*Атрымала Суверэнітэт.*
*Ажывае процьма мар адвечных,*
*Многіх пакаленняў запавет.*
*Ён у складзе дэлегацыі дзяржаўнай*
*Завітаў таксама ў Беласток,*
*Каб падзеяй падзяліцца слаўнай —*
*Вызвалення надышоў дзянёк.*
*Зборнік вершаў уручыў я госцю*
*І славутага пісьменніка рука*
*Клала быццам дарагое штосьці*
*Каля сэрца, у кішэню пінжака.*
*Па сустрэчы радасцю вялікай*
*Цешыўся, што ў гушчы розных спраў*
*Прысвяціў мне хвіліну Васіль Быкаў,*
*Шчыра так са мной паразмаўляў.*

## Нараўчанская дэмаграфія

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета жыхароў усё менш і менш. Для параўнання: у 1980 годзе ў ёй пражывала 6 570 асоб, а ў 1995 годзе — 5 330. Зараз на працягу толькі двух апошніх гадоў паменшала іх на 65. Зараз тут пражывае 3 840 чалавек. Найбольшай вёскай была і надалей застаецца Нараўка, якая цяпер налічвае 914 жыхароў. Вялікія вёскі гэта Семяноўка — 413 жыхароў, Старое Ляўкова — 343, Новае Ляўкова — 213, Скупава — 192, Міклашэва — 173, Плянта — 157, Лешукі — 124, Тарнопаль — 123, Альхоўка — 111, Ахрымы — 99 і Свінароі — 92 жыхары.

Давайце ўспомнім былыя гады і параўнаем якое было тут насельніцтва па колькасці, напрыклад, у 1980 годзе. Тады ў Нараўцы пражываала 857 чалавек, у Семяноўцы — 809 (!) і ў Скупаве — 460. З таго часу найбольшыя дэмаграфічныя змены адбыліся іменна ў Семяноўцы і Скупаве. Не было такіх вялікіх змен ні ў Старым Ляўкове, ні ў Новым Ляўкове. Новае Ляўкова ўвесь час мела і мае менш жыхароў чымсьці Старое Ляўкова. Але быў такі год (1995), калі гэтая вёска мела 301 жыхара. У школе ў Старым Ляўкове тады вучылася 170 дзяцей. У гміне былі чатыры школы.

Значна ніжэй сотні налічваюць наступныя вёскі: Заблотчына — 68, Стачок — 65, Старое Масева — 62, Гушчэвіна і Міхнаўка — па 58 ды Баб'я Гара і Лесна — па 53, Янова — 46, Новая Лука — 40, Новае Масева — 38, Падляўкова — 35, Гарадзіска, Грушкі і Капітаншчына — па 31 ды Пасекі — 30.

Прыбыло жыхароў у Бярнацкім Мосце, Леснай, Міклашэве, Плянце і ў Тарнаполі. Паменшала — у Альхоўцы, Церамках, Лешуках, Гарадзіску, Янове, Капітаншчыне, Крыніцы, Міхнаўцы, Нараўцы, Новай Луцэ, Новым Масеве, Новым Ляўкове, Старым Ляўкове, Семяноўцы, Семенякоўшчыне, Скупаве, Слабодцы, Старым Масеве, Сушчым Барку, Свінароях, Тарнаполі, Замошы і ў Забрадах.

Найменшыя паселішчы ў гміне гэта Семенякоўшчына — 17 жыхароў, Сушчы Барок — 16, Забрады — 10, Церамкі — 9, Замоша — 7, Баравыя і Ланчына — па 6 ды ўсяго двух жыхароў мае Гнілец і аднаго Лазовае.

У Баравых, Заблотчыне, Гнільцы, Грушках, Ланчыне, Лазовым, Новінах і ў Парослым лік не змяніўся і ўстойлівы ён ад пару гадоў!

У 2013 годзе Ў Нараўчанскай гміне зарэгістравалі 11 шлюбаў, нарадзілася 19 дзяцей ды памерла 47 чалавек. У 2012 годзе было больш шлюбаў (20), больш нованараджаных дзяцей (25) і менш паховін (42).

У 2012 годзе 11 пар святкавала 50-годдзе шлюбнага сужыцця, а ў 2013 годзе — было ўсяго пяць „залатых" пар.

(яц)



зорка
для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Падарункі ад настаўнікаў!







На пачатак добры ньюс для трэцякласнікаў. У канцы верасня атрымаеце новы падручнік па беларускай мове „Кругагод". І гэта не ўсё. Спецыяльна для вас падрыхтаваны таксама дыск з беларускімі дзіцячымі песнямі ў выкананні беластоцкіх аднагодкаў. Мы ўпэўнены, што гэтыя навінкі вам спадабаюцца. Сам падручнік з'ўляецца натуральным працягам „Лемантара". Ён заахвочвае вывучаць беларускую мову з дапамогай колераў, гукаў, песень, гульняў і фільмаў. Аўтарам „Кругагода" з'яўляецца шматгадовая настаўніца Аліна Ваўранюк, якая добра разумее сваіх вучняў і разам з імі (а таксама бацькамі) праводзіць шэраг мастацкіх праектаў і мерапрыемстваў. Між іншым, карыстаецца музычным патэнцыялам сваіх вучняў, якімі, можна сказаць, у гэты момант дасягнуў вяршыняў. Дыскі з беларускімі песнямі дзяцей проста цудоўныя! Узяць хоць бы такі дыск як „Звярынкі з глыбінкі", на якім дзевяць літаратурна-музычных мініяцюр на словы Міры Лукшы і музыку Анны Бабік.



Фота Ганны Кандрацюк

Такія творы дапамагаюць вывучыць шмат беларускіх, часам ужо прызабытых, слоў. Тут трэба дадаць, што беластоцкія салісты дбаюць не толькі пра вымаўленне. Іх песні каларытныя, цёплыя і сардэчныя. Некаторыя з іх, як „Жук Жукевіч", сталі ўжо школьнымі гітамі.

Падручнік і дапаможнікі былі прадстаўлены настаўнікам беларускай мовы, якія сустрэліся 13 верасня ў беластоцкім „Склепе з культурай". Сустрэчу вельмі ўдала папоўніла госця з Беларусі, актывістка Таварыства беларускай школы Тамара Мацкевіч. Яна прывезла шмат дыскаў, адмысловы сшытак з арнаментам і шмат добрых навін. Яна гаварыла пра зацікаўленне беларускай мовай. Дзеці, якія не маюць магчымасці вывучаць родную мову ў школе, свае веды папаўняюць у пазашкольных гуртках, якія як грыбы пасля дажджу ўзнікаюць у гарадах, мястэчках, вёсках. Іх арганізуюць бацькі, мастакі і асабліва моладзь, якая агучвае свае акцыі ў сацыяльных сетках. Для сучаснага беларуса веданне роднай мовы — гэта абавязак і адначасова прэстыж. Такія гурткі практычна ўзнікаюць вакол усіх сфер жыцця — ад балету па спорт.

— А дыскаў дык мы не паспяваем друкаваць, — адзначыла спадарыня Тамара.

Нашы настаўнікі гаварылі таксама пра свой новы часопіс, які будуць выдаваць ад гэтага школьнага года, а таксама паглядзелі новы фільм Міколы Ваўранюка „Гавораць беларусы Падляшша". Сустрэчу настаўнікаў арганізавала Аб'яднанне АБ-БА, якім ад нядаўна кіруе спадарыня Кацярына Паўлоўская.

ЗОРКА











# Чый сон найлепшы?

**(казахская казка)**

Сустрэліся аднойчы на паляванні тры паляўнічыя: двух паноў і мужык. Хадзілі яны ўвесь дзень па стэпе і толькі адну курапатку ўпалявалі. Яны стаміліся і вярнуліся ў свой шалаш. Запалілі вогнішча і пачалі думаць як на трох падзяліць курапатку.

Першы пан кажа:

— Няхай курапатку з'есць той, хто найдаўжэй выседзіць моўчкі.

— Можа быць, — пагадзіўся мужык.

Селі ля вогнішча і маўчаць. Мінула гадзіна, другая, трэцяя — усе маўчаць.

Тады мужык узяў курапатку і пачаў яе скубці. Паны глядзяць на яго і маўчаць. Аскуб мужык курапатку, паклаў яе ў кацялок і пачаў гатаваць. Паны маўчаць.

Курапатка зварылася. Мужык выняў яе з гаршка і пачаў есці. І толькі тады, калі ён з'еў курапатку, паны паднялі лямант:

— Як ты асмеліўся з'есці курапатку?

— Вы ж сказалі, што той, хто будзе маўчаць, атрымае яду. Хто першы з нас пачаў крычаць? Вы! Значыць і курапатка мая, — адказаў мужык.

Ляглі спаць паны не паеўшы.

На другі дзень яны ўпалявалі дзікую гуску. Аскублі, зварылі, знялі кацялок з агню.

— Як мы яе падзелім? — пытае адзін пан.

— А вось так, — кажа другі, — аставім на ўсю ноч гусь у гаршку, а самі пойдзем спаць. Той, для каго прысніцца найлепшы сон, раніцай з'есць усю гусіну.

— Няхай так будзе, — пагадзіўся мужык.

Ляглі спаць. Мужык адразу захроп, а паны да поўначы не спалі, усё прыдумвалі, каб іх сны былі найлепшыя.

Раніцай мужык гаворыць:

— Ну, расказвайце што прыснілася.

Першы пан кажа:

— Прыснілася мне, што я стаў чарадзейным, крылатым канём. У мяне выраслі бліскучыя крылы, на нагах сярэбраныя капыты, а на шыі — залатая грыва. Пасля ля мяне з'явіўся храбры рыцар-багатыр, які ўскочыў на маю спіну. І паляцелі мы высока-высока, што і зямлі не відаць. Мне закружылася ў галаве і я прачнуўся.

Другі пан таксама расказаў сон:

— Мой сон куды лепшы! Мне прыснілася, што гэты храбры багатыр, якога ты бачыў ва сне — гэта быў не хто іншы, а я сам. Я ўскочыў табе на спіну, схапіў за залатую грыву і мы паляцелі між аблокі — перад намі сонца, ззаду месяц, пад нагамі зоркі.

Тут я прачнуўся і не ведаю што было далей.

Слухае іх мужык і кажа:

— Файны вашыя сны, панове! Ну, проста цудоўныя! Мой сон быў сціплы. Прыснілася мне як трох сядзім у шалашы. І раптам, адзін з нас перамяніўся ў крылатага каня, а другі ў храбрага багатыра. Рыцар ускочыў чарадзейнаму каню на спіну і яны адляцелі ў неба. Заплакаў я па іх горкімі слязамі. „Эх, — гавару я сам сабе, — не вернуцца ўжо мае кампаньёны на зямлю! І гуска ім ужо непатрэбна". Узяў я гусяціну і з'еў.

— Як з'еў! — закрычалі паны.

— Цэлую гуску? А нам нешта пакінуў?

Прыскочылі паны да гаршка, а там толькі костачкі ляжаць.

**(«Казкі народаў Савецкага Саюза» — пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**



## Дашліце свае творы на „Дэбют"

Да 31 кастрычніка можна дасылаць свае творы — вершы і прозу — на ўжо XVII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. Творы вучняў пачатковых школ і гімназій разглядаюцца ў асобнай катэгорыі. 3-5 (або больш) вершаў або твор прозай (да 22 старонак) прышліце ў 2 экземплярах, падпісаных псеўданімам; у асобны канверт, падпісаны псеўданімам, укладзіце картку з псеўданімам, імем і прозвішчам, хатнім адрасам, адрасам школы, класам, прозвішчам настаўніка. Вучні адной школы ці класа могуць даслаць у рэдакцыю „Нівы" пакет сваіх прац разам, памечаных вышэйуказаным спосабам. Конкурс будзе завершаны ў снежні 2014 года. Усе ўдзельнікі будуць запрошаны ў Беласток на адмысловае заканчэнне конкурсу, на ўручэнне ўзнагарод пераможцам. Але ўсіх чакаюць узнагароды! А наймілейшая з іх — друк твораў у „Зорцы". А пасля „Дэбюту"? Сярод вучняў, якія прымалі ўдзел у папярэдніх выпусках гэтага конкурсу, ёсць ужо аўтары кніжак, журналісты. І ўсе яны пачыналі на старонках „Зоркі"!

**Міра ЛУКША**

# Вершы Віктара Шведа

## Дапамога бацькі

Настаўнік вучня пытае:
— Ці бацька табе памагае
Рашаць хатнія задачы,
Ці самастойная праца?

— Калі я пісаў з натугай,
Бацька стаяў з папругай
І пазіраў вельмі строга.
І гэта была дапамога.

## Чый гэта мяч?

— Скажы мне, смаркач,
Чый гэта будзе мяч?
— А ці выбіў ён
Шкло з вашых акон?

— На шчасце не выбіў
І выбіць не мусеў.
— Дык мой будзе хіба,
Цяпер прызнаюся.

## Хто больш кахае?

Было пытанне Адама:
— Ці любіш мяне, мама?
— Люблю цябе, каханы,
Калі ты паслухмяны.

Ды не люблю, вядома,
Як хуліганіш дома.
— А цябе дарагая,
Я заўсёды кахаю.

## Паслухмяны сынок

— Запыталіся: малыш,
Чаму тут так доўга тырчыш?
Пераходзь жа, дружок,
На другі вуліцы бок.

— Чакаю, вось, машыну.
Мама раіць неспынна:
Яна пераедзе, сынок,
Пераходзь на другі бок.

# Польска-беларуская крыжаванка № 38

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 34:

Месяц, сузор'е, салат, ген, дыня, дата, акно. Сусед, зона, крок, рада, смелы, сваяк, сцягно.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Klasa | Krążek | Łyka | Ażur | Ser | As / Sport | | Praga | Brat | | Trójca |
| Rydz | | | | | Kątek | | | | | |
| Kuku-rydza | | | | | | Dźwięk | | Ar | | |
| | | | | | | | | To | | |
| Żar | | | | Tygrys | | | | | | |
| | | No | Oko | | | | | Jawa | | |
| Koszyk | | | | | | | | | | |

Родам з Беласточчыны

# Адзін з пачынальнікаў ТБШ на Беласточчыне

У 1930-х гадах адным з актыўных сяброў Таварыства беларускай школы (ТБШ) на Беласточчыне быў Васіль Юравец.

Васіль Юравец нарадзіўся ў вёсцы Грыбаўцы каля Гарадка ў звычайнай беларускай сям'і. Скончыў пачатковую школу, але далей вучыцца не змог, бо сям'я на гэта не мела сродкаў. Працаваў ён на тэкстыльнай фабрыцы ў Гарадку.

Калі на Беласточчыне ствараліся гурткі ТБШ, Васіль Юравец — адзін з першых запісаўся ў гэтую беларускую арганізацыю. Ён быў не толькі сябрам Гарадоцкага ТБШ, але сакратаром яго ўправы.

У вольны час юнак з Грыбаўцаў выступаў з прамовамі перад сваімі землякамі, заклікаў іх уступаць у ТБШ, а таксама пісаў вершы. Ён дасылаў іх у віленскія беларускія выданні. Некаторыя вершы нават друкаваліся. Асабліва актыўным Васіль быў у 1933 годзе. Часопіс „Летапіс Таварыства Беларускай Школы" апублікаваў некалькі яго паэтычных твораў.

У канцы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў Васіль Юравец бачыў, як жывуць яго землякі, як ім цяжка, асабліва тым, хто вярнуўся з бежанства з Расіі. Галодныя, босыя і халодныя яны сяліліся разам са сваімі блізкімі і бацькамі, хто змог вярнуцца, на родных загонах, якія параслі густымі лазнякамі і лесам. Але беларусы сяліліся, бо дома лепш было, бо хацелася дамоў. Яны карчавалі поле, абраблялі глебу, змагаліся з голадам і холадам. Юнак з Грыбаўцаў бачыў іх панурае і цяжкое жыццё. Слабыя людзі паміралі, дэмаралізаваліся. Мацнейшыя выжывалі, гартаваліся, працавалі і змагаліся. Да ліку мацнейшых адносіўся і Васіль Юравец. Разумеючы вялікую патрэбу ў культурна-нацыянальным усведамленні, ён быў у першых шарэнгах беларускіх актывістаў за асвету, за родную мову. Пра гэта ён і пісаў у паэтычных радках. Праўда, у іх было шмат недахопаў, адчувалася, што юнаку не хапала пэўнай адукацыі, што ён недастаткова валодаў роднай мовай. З рэдакцый віленскіх выданняў яму дасылалі лісты, пісалі, што неабходна добра працаваць над формай сваіх вершаў, якія мелі шмат кволых строфаў з пункту гледжання рытму і рыфмы. Яму раілі чытаць творы беларускіх паэтаў.

Але ў вершах Васіля Юраўца адчуваўся здаровы гумар, бадрасць і нейкая юначая мужнасць і аптымізм, якія тады былі патрэбны тым беларусам, што жылі з ім побач. Ён крытыкаваў тых, хто нічога не рабіў, а толькі плакаў над сваёй доляй. Васіль такім не быў, ён бадзёра глядзеў на жыццё, ён не ўмеў плакаць над крыўдамі, над горкім лёсам. Ён перажываў за гурткі ТБШ на Беласточчыне, за тых сяброў, якія былі неактыўнымі, таму даводзілі гурткі да заняпаду і знішчэння. Пра гэта ён пісаў у сваіх паэтычных радках. А ў вершах актыўна заклікаў уступаць у ТБШ, заклікаў абараняць сваю мову, адкрываць беларускія школы, актывізаваць мастацкую самадзейнасць.

Звестак пра паэта Васіля Юраўца вельмі мала, нават не ўдалося мне даведацца пра гады яго жыцця і смерці, а таксама не вельмі добрай якасці знайшоўся яго фотаздымак. Магчыма пасля гэтай публікацыі, нехта адгукнецца з Гарадка ці з Грыбаўцаў і раскажа больш пра таленавітага беларуса. А можа на Беласточчыне жывуць яго дзеці і ўнукі, і яны таксама адгукнуцца, каб нам усім разам вярнуць з небыцця імя беларускага юнака, які пісаў вершы і думаў пра лепшую долю свайго народа.

Прапаную чытачам „Нівы" вершы Васіля Юраўца, якія ён напісаў у 1932-1933 гадах.

Сяргей ЧЫГРЫН




ЛЕТАПІС
ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ
Культурна-Грамадзкі і Літэратурны Месячнік

АДРЭС РЭДАКЦЫІ:

## З літаратурнай спадчыны Васіля Юраўца

### Наш гурток...

*Прысвячаю сябрам*
*Гарадоцкага гуртка*

1.

*Наш гурток ў сучаснай эры*
*Ні то гасне — ні гарыць:*
*Два замкі падперлі дзверы,*
*Пэўна штосьць яму баліць.*
*Мо пружына аслабела*
*Главаром гуртка — сябрам,*
*Ўрэшце мо і заржавела,*
*Дык трэ нову ўставіць нам?!*
*Не! Здаецца, ўсё ў парадку,*
*Як і зверху, так знутры —*
*Трэ знясці сяброўску складку, —*
*Сорам — выйшло ўжо з пары!*
*Годзі ўжо, даволі спалі,*
*Пара, сябры, уставаць,*
*Ад другіх, пабач, адсталі,*
*Якасьць мусіма дагнаць!*
*Дык тайкні сусед суседа,*
*Ушчыпні свайго сябра!..*
*Спі як хочаш — я, брат, еду!*
*Чуеш ты?! — Даўно пара!*
*Маем добрую чыгунку,*
*Зробім больш тып калёс,*
*І папрэм у тым кірунку,*
*Дзе цяпер чарот парос.*
*Зловім, згомтаем чароты,*
*Смецце выкінем — згарэм...*
*Дык шпарчэй жа да работы, —*
*З мяне першага пачнем!*

2.

*Гэтак ехаць, як мы пхнемся,*
*З аглаблямі без атос, —*
*У пайдарогі застанемся*
*І чарот той будзе рос!*
*А тут з боку, як на тое,*
*Вельмі многа перашкод,*
*Што тармозяць, як на злое,*
*Наш нясведамы народ:*
*Топчуць, рыюць каляіны,*
*Смецце кідаюць, плююць,*
*У бок цягнуць аглабліну,*
*Далей ехаць не даюць.*
*Воз то скача, то віляе*
*З каляіны скрозь на бок.*
*Прыклад гэтакі, вось, мае*
*Гарадоцкі наш гурток.*
*Пакідаем тагды пхаці, —*
*Дзе трэ ехаць — мы стаяць —*
*Ды праекты будаваці,*
*Хто б ляпей мог кіраваць.*
*І штодня перакладаем*
*Гэты цяжар задарма,*
*Вынік вось які мы маем:*
*Не было лепш і няма.*
*Не суябаць жа нас па спіне...*
*Як за паншчынай каліcь.*
*Справа ўся у дысцыпліне,*
*Ды такой, што аж дзярэысь!..*

**23-25 ліпеня 1932 г.**
**в. Грыбаўцы**

### Да ведама вёскі Меляшкі

*Меляшкі даўно хварэюць —*
*Без пары не едзе смерць.*
*Ад чаго не разумеюць,*
*Трэ ім лысіну нацерць.*
*Чорт сядзіць у іх балоце,*
*Што не відна нават рог.*
*Ходзіць кожны, як па дроце,*
*Каб заразнуці не мог.*
*У жывіцы мокры рогі,*
*Бедна мучыцца чаго?*
*Погляд мае вельмі строгі,*
*Так прабіла бы каго...*
*Каб з вас людзі не смяялісь,*
*Не казалі: Меляшкі!*
*Вы адразу б дагадалісь —*
*Трэба выпіць парашкі.*
*Тады будзеце багаты,*
*Стане стог вам на стагу...*
*Не жадаю з вас заплаты —*
*Добрым словам памагу.*

**1932 г.**

### Хлопцы, дружна!..

*Хлопцы, дружна,*
*хлопцы смела,*
*Пакуль рукі змогуць браць,*
*Пакуль горай не суямнела —*
*Завідна ляпей пачаць —*
*Ратаваць сваю сярмягу,*
*Ратаваць свой цёмны край,*
*Што акутаў сон бядняту —*
*Крыкнем голасна: ўставай!*
*На культурным небасхіле*
*Рассяваецца туман:*
*Цемру гоне ўжо к магіле*
*Кучка сведамых сялян.*
*Вось каб кожна вёска знала,*
*Кожна цёмная душа,*
*Што культура занапала,*
*Што нам трэба ТБШ!*

**1933 г.**

### Да працы

*Гэй вы хлопцы! Гэй дзяўчаты!*
*Дзвінем дружна ў ТБШ!*
*Там дык праца распачата*
*Нам карысна й хараша.*
*Ўсе па нітцы, па шнурочку*
*Зложым, хлопцы,*
*з кожных хат, —*
*Глядзіш, голаму сарочку*
*Зробім, хлопцы, напрыклад.*
*А тады цясней павяжам*
*Ўсе гурткі ў адно звяно,*
*Ды другім прыклад пакажам, —*
*Разам дзвінем — за адно!*
*Гэй вы хлопцы! Гэй дзяўчаты!*
*Ўсе адзін да аднаго!*
*Калі ж меса не занята,*
*Дык займай хутчэй яго!*

**1933 г.**

# У Нараўцы — як у Маскве

**Бываючы ў Плянце, што ў Нараўчанскай гміне, задумалася мне наведаць Галіну Бірыцкую, сціплыя згадкі пра якую паяўляюцца час ад часу ў „Ніве”. А жыве ж яна там цалкам недалёка ад Уладзіміра Клімюка, да якога некалькі разоў заглядаў я цягам апошніх тыдняў.**

Гаспадыню застаў я дома, запрасіла яна мяне на хату, як гэта ў нас называецца парадны пакой. А тамака — як у музеі — уся мэбля абвешана ўсялякімі гафтамі і вышыванкамі.

— Нядаўна была я на фэсце, паказвала там свае работы, пайшоў дождж і мае працы крыху набраліся сырасці, таму іх тут так прасушваю — тлумачыць мне.

А я прашу знакамітую рукадзельніцу расказаць пра сябе, пра ейны шлях у рукадзельнае мастацтва.

— У 1985 годзе атрымала я ганаровую грамату за найпрыгажэйшы прысядзібны агародчык. У 1980 годзе паставіла я гэтую хату, сама, бо мужык мяне пакінуў. У той час гадавала я чацвёра дзяцей. Трэба было іх апрануць у фартушкі з каўнерыкамі. Я тады працавала на чыгунцы. Мужчыныя чыгуначнікі апраналі мундзіры, а жанчыны хадзілі ў фартухах з белымі каўнерыкамі. І трэба было нарыхтаваць — дзецям і мне — столькі фартухоў і каўнерыкаў да іх. Да таго ж трэба было парабіць дзецям бутэрброрды ў школу, дагледзець, каб выканалі дамашнія задачы, каб у школу пайшлі ў чыстай вопратцы. Самой жа таксама трэба было выглядаць акуратна...

— Але ж гэтае замілаванне да парадку і прыгажосці аднекуль узялося. У хаце, дзе Вы выраслі, быў прысядзібны агародчык?

— У мамы быў агародчык, але з такімі колішнімі кветкамі, як жоўтыя вяргіні, што раслі пры самой хаце, былі мальвы, касачы, званочкі. І я тыя кветлі палюбіла, вельмі палюбіла.

— І вышыўкі хіба таксама ад мамы Вы навучыліся?..

— Так, але пра гэта доўга расказваць. Калісь Міра Лукша пісала „Пачалося ад каўнерчыка”. Даўней у школе таксама былі фартушкі з белымі каўнерыкамі, абробленымі карункай. І мне, калі была вучаніцай, таксама вельмі хацелася мець такі каўнерчык з карункай. І так я думала, як тут мець такі белы каўнерчык. А мама: „Вучыцца трэба!”, ніякіх работ, бо ж і ў школу ў Ляўкова трэба было сем кіламетраў хадзіць. А я вельмі хацела. У нашай школе пачала настаўнічаць Марыя Сікорская, родам з Нараўкі. А ў яе былі абробленыя хустачкі, вымала іх, а мне аж вочы гарэлі на тыя карункі. Калісь, не тое што цяпер, настаўніца была надта важнай асобай, да якой не было смеласці адазвацца. Але яна была вельмі сімпатычнай асобай, прыветлівай, і я яе спытала, ці яна сама тыя хустачкі абрабляе. А яна адказала, што не яна, але ейная сястра займаецца вышыўкай. І я выказала ёй сваё жаданне, каб магчы пабачыць як тая яе сястра гэта робіць. Марыя Сікорская дамовіла мяне са сваёй сястрой і я паехала ў Нараўку роварам і яна мне паказала, як робіцца слупкі, паўслупкі, як пачынаецца, як што. І тады, калі насталі зімовыя канікулы, я, нічога маме не кажучы, залезла на гарышча, адкрыла куфэрак, бо ж у куфэрку даўней палатно трымалі, памерала колькі на каўнерчык трэба і адрэзала такі кусок матэрыялу. Сядзела на печы, бо ж калісь усё на печы, была там такая падушачка, на падушачцы ляжала кніжка — бо ўсё ж вучыцца трэба было. І як мама выходзіла на панадворак упраўляцца, то я той каўнерчык абрабляла, а як мама прыдзе дахаты, то я ўжо над кніжкай сяджу...

— Але на печы, то што там было — лямпу мелі?

— Акно на печ выходзіла і было відно, а я ж была тады маладая. І я той каўнерчык неяк абрабіла, але як яго паказаць маме?! Каб мама не накрычала, што палатно парэзала... А мне ж той каўнерчык здаваўся такі харошы, што і не расказаць. Але акурат прыйшла з Лукі маміна цётка — бабуля акурат Алега Латышонка. Была гэта талковая жанчына. Яна з мамай стала гаварыць, размова ішла гладка. І я тады адважылася паказаць той каўнерчык. І як паказала, то цётка пахваліла, а мама — не набіла. І з таго часу так пакрысе пачала рабіць.


■ Галіна Бірыцкая са сваімі працамі

— І мама ўжо дазваляла?

— Не, не дазваляла, бо ўсё крычала, што вучыцца трэба, кароў трэба было пасвіць, на гаспадарцы памагаць. Не было калі, але я ўжо ўмела. А як ужо падрасла і паненкаю стала, то ўжо і пасцель гафтавала і многа што рабіла. І мама ўжо задаволеная была. Калі хто дзе рабіў узоры — у вокнах калісь былі гафтаваныя фіранкі, то мама ўжо сама хадзіла да тае жанчыны, каб яна паказала, як гафтаваць, паводле якога ўзору.

— А мама сама гэтым не займалася?

— Мама займалася рукадзеллем, мама прасцірадлы абрабляла, і ручнікі мела вышытыя. І мне дазваляла, але толькі не ў перыяд школьнай навукі. Пасля я выйшла замуж, нарадзіла чацвёра дзяцей, не было часу, але пакрысе рабіла. Пасля родаў у шпіталі ў Нараўцы трэба было дзесяць дзён ляжаць. То я з сабою ніткі брала, кручок, папрашу санітарку каб нейкі прыгожы ўзор прынясла, і рабіла. А вярнуся дахаты, то адной нагою дзіця калышу, а ў руках сурвэтку раблю. Любіла рабіць. А пасля і на рабоце, працуючы наглядчыцай, калі здаралася хвіліна вольнага часу, тады сядала на якімсь мяшку цэменту — работнікі робяць, а я таксама сяджу і раблю. Так было. А пасля вычытала ў газеце, што ладзіцца конкурс гафту і карункі ў Гайнаўскім доме культуры. Было ўжо нават пазнавата, пасля тэрміну, калі я туды пазваніла і паведаміла, што ў мяне многа працы і ці не магла б я прыслаць іх на конкурс. Яны дапусцілі мяне, узялі мае працы. Так было прынялося, што прывязе хто дзве-тры працы, невялікія. А я завезла на той кокурс сорак тры працы; думала — яны выбяруць што ім там падабацца будзе. І яны амаль усё ўзялі на выстаўку. І з таго часу пачалося.

— Калі гэта было?

— У 2006 годзе. Атрымала тады ўзнагароду. І ўжо на працягу сямі выпускаў гайнаўскага канкурсу толькі раз было вылучэнне, а то ўсё былі ўзнагароды. Пасля пяці конкурсаў пайшла я да войта і кажу: Пан войт, мяне ўзнагароджваюць, на выставы запрашаюць, на фэсты. Але гэта ўсё звонку, але ж я тутэйшая, Ваша; а ад Вас нічога... І атрымала я ад войта сервіз на дванаццаць асоб — была гэта першая ўзнагарода ад войта, і яна мяне вельмі ўзрадавала. І цяпер дзе толькі не ладзяць выставак — і ў Міхалове, і ў Гарадку, і ў Нараўцы, і ў Гайнаўцы, і ў Чаромсе, і ў Кляшчэлях, і ў Ожышы, сёлета ў Свіслачы была, і ў Выдмінах... І ў Высокамазавецку летась быў Сусветны дзень малака, дык войт даў транспарт... Дасягненні багатыя, працы шмат — вось прасушваць трэба. Сёлета ўдзельнічала ў шаснаццаці выставах, а да зімы можа быць яшчэ некалькі.

Столькі наконт выставак. А цяпер пра агародчык. Пасля ўзнагароды ў 1985 годзе было некалькі гадоў перапынку, бо ж і дзяцьмі трэба было займацца. Як самотна выхоўваючая дзяцей маці, атрымала я, разам з дзяцьмі, двухтыднёвую пуцёўку ў дом адпачынку ў Клімчукоўку, аж за Бельска-Бялай, на Цешынскім Шлёнску. Была гэта ўзнагарода са школы, ад дырэкцыі і бацькоўскага камітэта. Мяне цанілі... А цяпер усё адмянілася. У нашай гміне паявіўся, як я гэта называю, агародны хаўрус. Я цяпер адчуваю сябе вельмі пакрыўджанай. Вось за прысядзібны агародчык мне не шанцуе ў камісіі, якая вызначае найпрыгажэйшыя агародчыкі ў гміне. З пачатку 2000-х гадоў мне толькі адзін раз прызначылі другое месца, тройчы трэцяе месца, было некалькі вылучэнняў, некалькі падзяк, а здаралася, што нават і падзяк за ўдзел у кокурсе не было, і нават да конкурсу майго адародчыка не прымалі; гэта здарылася сёлета. Мне вельмі прыкра. Ёсць такія ўдзельнікі, што часта бяруць першыя месцы і па некалькі разоў атрымліваюць узнагароду гран-пры. Мне здаецца, што калі хтосьці атрымаў гран-пры, то ўжо павінен завяршыць свой удзел у гэтых конкурсах і саступіць месца іншым. Ці ж можна ўзнагароджваць за тое, што нехта пасадзіць той адвечны ядловец? То ж гэта лепшы бізнес, чым уклад у банку. Хопіць без вялікага клопату пасадзіць тых некалькі іглякаў і кожным разам камісія будзе прызначаць першыя месцы. А ў мяне аднаго года было сто пяць вазонаў кветак і адкінулі, бо ж камусь іншаму трэба даць узнагароду. Аднойчы ў камісіі быў Ставіцкі, пасля праверкі агародчыкаў на маё пытанне пра тыя агародчыкі, адказаў, што каго належыла ўзнагародзіць, таго не ўзнагародзілі, а ўзнагародзілі таго, каго трэба было ўзнагародзіць — бо той асобе трэба было даць узнагароду. І мне здаецца, што так адбываецца цэлы час. Была Вяжхоўская, якая раней не атрымаўшы першай узнагароды, атрымала адразу гран-пры. Мне здаецца, што гран-пры павінна быць свайго роду падвядзеннем ранейшых поспехаў.

— Я то не ўмею тут выказацца, але мне здаецца, што ёсць нейкі рэгламент конкурсу, і калі той устаў дапускае такое, то яно дазволена.

— Не ведаю, ці ёсць рэгламент, але мне здаецца, што такога няма, бо без яго выгадней адвольна раздаваць узнагароды. Бо як жа ж можна аднаго зусім адкінуць, а іншага бесперапынна ўзнагароджваць? Калісь, пры камуне, наракалі, што абраннікаў прывозілі ў „тэчцы”. А цяпер тое самае, можа нават яшчэ горш. Вось і ў выпадку гэтага конкурсу — каму мелі даць узнагароду, таму пазванілі і папярэдзілі калі іх агародчыкі будзе глядзець конкурсная камісія. Званілі ў аўторак, што ў сераду будзе камісія, але нешта тады не атрымалася, то пазванілі яшчэ раз, перапрасілі, што ў сераду не атрымалася, што прыедуць у чацвер. А мяне не паведамлялі, бо мелі адкінуць, то не трэба было і паведамляць. Не паведамлялі таксама тых, што атрымалі вылучэнні, толькі тых, якія мелі атрымаць узнагароды. Чаму ж не паведаміць усіх удзельнікаў конкурсу?

— А хто паведамляў?

— Андрэй Недзьведзь, старшыня камісіі. А яшчэ быў у камісіі Каліноўскі Павел. Ён не аглядаў майго агародчыка, але пратакол падпісаў; ці ж так можна? Старшыня камісіі ставіў закід, што каля майго агародчыка дрэвы растуць і лістоўе з іх падае. То я прасіла яго, каб тыя дрэвы прыцяць і ён — а ён гмінны радны — паабяцаў, што на сесіі Гмінная рады за гэтым пахадайнічае, але на абяцаннях скончылася.

— Але вернемся да рэгламенту; калі б ён выключаў пераможцаў з далейшага спаборніцтва, то, калі прыблізна прыступае зараз да конкурса пятнаццаць удзельнікаў, пасля пятнаццаці выпускаў не было б ужо каму змагацца за найпрыгажэйшы агародчык.

— Але калі ў мяне сёння пяцьдзесят пяць вазонаў кветак, то выпадала б хаця даацаніць працу маіх рук. Колькі вады трэба ў гарачыню нанасіцца, каб іх падліць. І на зіму тыя кветкі трэба прыхаваць. У мінулым годзе да конкурсу заявіла ўдзел дваццаць панадворкаў — было б каму ўдзельнічаць, абы толькі належна ацэньвалі іх высілак. І людзі стараліся б, ведаючы, што і іх заўважаць. А тое, што дзеецца цяпер — знеахвочвае. І яшчэ адно: былі вось гмінныя дажынкі. І я на тыя дажынкі нарыхтавала аздобы, каб урачыстасць выглядала дастойна: перапёлку традыцыйную, і мішку з гарбузоў; за іх атрымала па ручніку. А тыя, што атрымалі ўзнагароды, то папрыходзілі з пустымі рукамі, адно толькі каб узяць тыя ўзнагароды. У іхніх агародах няма нічога такога, чым бы можна было тую ўрачыстасць упрыгожыць. Адзін толькі Равінскі са Старога Ляўкова, які сёлета ўпершыню ўдзельнічаў у конкурсе і атрымаў першую ўзнагароду, прывёз цэлую сумку вінаграду, каб яго пакласці ў кошыкі дзеля аздобы. А ўсе іншыя ўзнагароджаныя турбуюцца адно знаёмствамі, узнагародамі і нічым іншым. То ж хіба трэба і ў карысць гміны нешта зрабіць, каб яе і тут можна было паказаць.

— Можа яны не маюць у сябе вінаграду ці збожжа на вянок ці перапёлку...

— То за што іх узнагароджваюць?! А я на дажынкі і кампазіцыі з вырашчаных у маім

працяг ☞ 11

1 працяг

# Беларускі міф у Беластоку

дзяржаву. Аднак як прафесіяналы ў справе дзяржаўнага будаўніцтва, яны не ведалі і не ўмелі гэтага рабіць. Калі трэба было прызначаць кагосьці на нейкую пасаду, нават прызначыць міністра культуры і адукацыі, асяроддзе БНФ не мела прапановы, не мелі чалавека, які быў бы здольны, у адпаведнасці са сваім вопытам, яе заняць. Калі ласка, дайце мне добры прыклад, што таленавіты, дасведчаны беларус быў пазбаўлены магчымасці заняць нейкую пасаду ў Польшчы. Трэба нам выхоўваць, вучыць нашых таленавітых людзей беларускай нацыянальнасці. Часта іх таксама губляем, не вяртаюцца ў Беларусь, заканчваючы Гарвард або Йейл. У нас ёсць шмат інтэлектуалаў, але нешматлікія з іх маюць вопыт працы кіраўніка.

У дыскусію таксама далучыліся слухаючы дэбатаў. Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў Польшчы, у польскім, беларускім, але і ў больш шырокім кантэксце, заявіў:

— У палітыцы абавязвае простае правіла: дабіць слабейшага — слабейшы народ.

### Беларуская ідэя

Станіслаў Шушкевіч:

— Калі не будзе беларускай мовы, не будзе Беларусі. Для мяне гэта зразумела: пакуль не будзе дзяржаўнай палітыкі падтрымкі беларускай мовы, гэтая мова не можа панаваць у Беларусі, не будзе існаваць як дзяржаўная. У нас няма дзяржаўнага заканадаўства, няма законаў па-беларуску, няма судовых працэсаў па-беларуску. Я ганарыўся б, калі б у маёй краіне расійскія і беларускія мовы былі раўнапраўныя. Так не ёсць (...). Няма здаровай канкурэнцыі для распрацавання беларускай нацыянальнай ідэі. На сённяшні дзень няма такой ідэі, якая была б зразумелая кожнаму, якая б усімі падтрымлівалася.



Злева: Станіслаў Шушкевіч, Яўген Вапа, Лявон Тарасэвіч, Анатоль Вап, Эдуард Швайко

На яго думку, да вырашэння ў рамках будаўніцтва беларускай нацыянальнай ідэі застаецца пытанне аб уніфікацыі беларускай мовы, так, каб на самой справе магла быць дзяржаўнай мовай.

Лявон Тарасэвіч:

— Ірландцы не гавораць па-ірландску, а ёсць Ірландыя.

Станіслаў Шушкевіч:

— Ірландыя дае прыклад, што можна быць незалежным без сваёй роднай мовы.

Лявон Тарасэвіч:

— Але ёсць там гістарычная свядомасць.

Станіслаў Шушкевіч:

— Я не выключаю, што гэты варыянт павінен быць прааналізаваны з іншымі варыянтамі ў рамках распрацоўкі беларускай нацыянальнай ідэі.

Барбара Пякарская ад Згуртавання «АБ-БА»:

— Сітуацыя ў Беларусі і на Беласточчыне зусім іншая. Становішча беларускай меншасці ў Польшчы не можа быць параўнаным з большасцю ў Беларусі. Ад гэтага ёсць дзяржава, каб «стаяла» за мовай.

Алег Латышонак спаслаўся на адну папярэднюю думку:

— Беларусы, як на еўрапейскія ўмовы, сярэдняя нацыя, але слабая. Толькі вонкавыя ўмовы могуць гэта змяніць (тое, што яна слабая — М. Х.).

Станіслаў Шушкевіч:

— Цяперашняя ўлада ў Беларусі не можа быць зменена, таму што крыніца русіфікацыі не дасць. Беларусь мусіць вылучыць лідара, які змог бы дамагчыся змен.

У канцы дыскусіі Алег Латышонак разгарнуў перспектыву:

— Беларускую меншасць у Польшчы чакае знікненне. Яшчэ толькі пакаленне можа выжыць. Мы пакінуты самім сабе, але мы моцная меншасць. Пераканаліся мы ў сваім існаванні, мы выраслі інтэлектуальна, але самастойна мы не можам утрымаць П'емонт. Без беларусізацыі Беларусі мы не ў стане выжыць, таму што нас замала.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА




## http://epramova.org

У свеце ўсё цячэ і ўсё змяняецца, нават у беларускай палітыцы, хаця прычын, так казаць, на даны момант няма абсалютна ніякіх. Пра тое, што змены ідуць недзе ў глыбіні, сведчаць новыя твары сярод беларускіх апазіцыйных палітыкаў, хоць яны пакуль не надта яркія і адметныя. Магчыма, гэтыя людзі альбо самі стануць сімваламі значных змен у жыцці Беларусі, што адаб'ецца на ўвесь наш этнас, альбо будуць перадумовай з'яўлення іншых асоб, якія возьмуць на сябе місію па сапраўдным беларускім адраджэнні.

Адной з праяў такіх глыбінных працэсаў можна назваць сайт у інтэрнэце, што месціцца па адрасе **http://epramova.org.** Ягоная назва сугучная адрасу — **„ePramova”**. Гэта свайго роду трыбуна, дзе беларускія апазіцыйныя палітыкі выказваюць сваю думку па тых ці іншых пытаннях жыцця.

Выглядае сайт даволі прывабна. Адразу бачна, што стваралі яго прафесіяналы, якія добра валодаюць сваёй справай. Яны зрабілі яго мультымедыйным, і таму ён падаецца як партал нейкага тэлевізійнага канала, які спецыялізуецца ў публіцыстычна-аналітычных праграмах.

Рубрык на сайце не надта многа і яны раскіданыя па цэлым выяўленні. Для больш падрабязнага азнаямлення з **„ePramova”** варта для пачатку зазірнуць на старонку „Аб праекце”, выйсце на якую знаходзіцца ў правым верхнім вугле. «„**ePramova**” — гэта пляцоўка для дыскусіі паміж грамадзянамі аб тым, якой павінна быць Беларусь. Тут кожны можа знайсці адказы і прапанаваныя рашэнні для праблем, з якімі сутыкаюцца беларусы. „**ePramova**” — гэта месца, дзе простыя грамадзяне сустракаюцца з прадстаўнікамі палітычных партый і грамадскіх арганізацый. Гэта адзіная пляцоўка, дзе адначасова можна пачуць прапановы і бачанні розных палітычных сілаў і грамадскіх арганізацый Беларусі», — абвяшчаюць стваральнікі і ідэйныя натхняльнікі сайта.

Таксама на гэтай старонцы падкрэсліваецца, што пытанні ад карыстальнікаў на сайце **«ePramova»** варта задаваць палітыкам па пяці асноўных тэматычных напрамках — эканоміцы, палітыцы, сацыяльных праблемах, міжнародных адносінах і культуры.

Праект стварылі некалькі палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў. Інфармацыя пра іх месціцца як у адпаведнай рубрыцы „Партыі/арганізацыі”, так і на галоўнай старонцы ўнізе выяўлення. Усяго іх восем — гэта Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларуская партыя «Зялёныя», Беларуская партыя левых «Справядлівы свет», Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), Беларуская хрысціянская дэмакратыя, кампанія „Гавары праўду”, Партыя Беларускага народнага фронту і Рух «За свабоду». Калі цікаўны карыстальнік клікне мышкай на лагатып кожнай з іх, то выйдзе на старонку з відэавыступленнямі актывістаў даных арганізацый па розных праблемах.

Нягледзячы на тое, што на сайце ўжо даволі многа цікавай інфармацыі, яго стваральнікі працягваюць працу па ўдасканальванні і напаўненні сваёй вэб-старонкі. Напрыклад, калі рубрыкі „Адказы” і „Інтэрв'ю” ўжо напоўнены відэасюжэтамі, то ў „Дыскусіі” паведамляецца: „Неўзабаве будзе апублікаваная першая дыскусія пра Беларусь”.

Варта адзначыць, што сайт мае дзве моўныя версіі — рускую і беларускую, але выступы спікераў ідуць, як кажуць, на мове арыгінала.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ




## Змагар за Беларусь

# 105 гадоў з дня нараджэння Дзмітрыя Касмовіча

Беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, выдавец Дзмітрый Касмовіч нарадзіўся 21 верасня 1909 г. у славутым беларускім горадзе Нясвіж. У 1927 г. скончыў Радашковіцкую беларускую гімназію, працаваў, каб зарабіць грошы на далейшую адукацыю. У 1929-1931 гг. вывучаў палітэхнічныя навукі ў Бельгіі, прымаў актыўны ўдзел у студэнцкім руху. Быў сябрам Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый з цэнтрам у Празе. У 1931-1934 гг. служыў у польскай арміі. Пазней атрымліваў вышэйшую адукацыю ў Бельгіі, якую скончыў у Бялградзе. Працаваў на бельгійскіх вугальных шахтах, каб зарабіць грошы на навучанне.

У верасні 1939 г. вярнуўся ў Нясвіж, быў на адміністрацыйнай працы. Па прапанове мясцовых жыхароў прызначаны бурмістрам Нясвіжа, працаваў у сацыяльным забеспячэнні Нясвіжскага раёна, гаспадарчым інспектарам. Быў накіраваны на Народны сход Заходняй Беларусі ў Беластоку, дзе абраны дэлегатам на сесіі Вярхоўнага Савета СССР у Маскве і Вярхоўнага Савета БССР у Мінску. Атрымаўшы папярэджанне пра магчымы арышт, пераехаў у Мінск, вучыўся ў Мінскай палітэхніцы.

Улетку 1941 г. на пасадзе каменданта Касмовіч арганізаваў беларускую паліцыю ў Мінску. Быў кіраўніком і арганізатарам транспартнага, харчовага, прамысловага, гандлёвага аддзелаў Мінскай гарадской управы, сябрам Цэнтральнага камітэта Беларускай незалежніцкай партыі. Актыўна ўдзельнічаў у аднаўленні царкоўнага жыцця, адбудове царкваў і беларусізацыі набажэнстваў, быў дэлегатам і ўдзельнікам сабора Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

У 1941-1943 гг. разам з Міхалам Вітушкам і Радаславам Астроўскім ствараў беларускія ваенныя і паліцыйныя атрады на Браншчыне, Смаленшчыне і Магілёўшчыне, а таксама арганізоўваў цывільную адміністрацыю. У 1943-1944 гг. быў інспектарам Беларускай краёвай абароны. Удзельнік II Усебеларускага кангрэса ў Мінску 27 чэрвеня 1944 г., сябра Беларускай Цэнтральнай Рады, кіраўнік Замежнага сектара Беларускай незалежніцкай партыі (мянушка «Каршун»). Перабіраецца ў Германію, супрацоўнік Галоўнага ўпраўлення ваенных спраў БЦР. На верасьнёўскай канферэнцыі БНП (1944) быў прызначаны кіраўніком Замежнага сектара БНП з заданнем завязаць сувязь з заходнімі дзяржавамі для далейшага змагання за незалежную Беларусь. У сакавіку 1945 г. — афіцэр беларускага дэсантнага батальёна «Дальвіц».

Працаваў у Міжнароднай арганізацыі **UNRRA.** Арганізацыя дапамагала ўцекачам арганізаваць жыццё ў ДП-лагерах (**DP — Displaced Persons),** эміграваць у іншыя краіны. Адначасна вёў на міжнародным роўні беларускую нацыянальна-палітычную працу і дабрачынную дзейнасць сярод беларусаў, якія апынуліся ў Германіі.

Галоўнай мэтай Дзмітрыя Касмовіча і яго паплечнікаў было аб'яднанне беларускага актыву, пашырэнне беларускай вызваленчай ідэі ў свабодным свеце, зацікаўленне ўплывовых палітычных дзеячаў Захаду становішчам у Беларусі. Касмовіч меў шырокія кантакты з грамадскімі і дзяржаўнымі дзеячамі, парламентарыямі розных краін, супрацоўнікамі ААН.

З 1954 г. актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі Сусветнай антыкамуністычнай лігі, у якой прадстаўляў Беларусь. Касмовіч быў вядомы ў сусветных антыкамуністычных арганізацыях, удзельнічаў і выступаў на канферэнцыях. Апошнія гады жыцця працаваў над кнігай «За вольную і суверэнную Беларусь». Памёр Дзмітрый Касмовіч 23 красавіка 1991 года ў Штутгарце (Нямеччына).

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Міхалоўскія казкі

У Міхалове быццам ва ўсходняй казцы — пры ўваходзе ў тамтэйшы дом культуры залаты брук. Азалацію яго калектыў міхалоўскіх школьнікаў у саставе Зося Касакоўская, Крыстыян Стоцкі, Міхал Кулеша, Юля Чабан, Іза Чарняўская, Давід Лях, Паўліна Банасюк, Эля і Марта Бура. Разам з імі чацвёрка дарослых з варшаўскага Аб'яднання практыкаў культуры.

— Здымаем фільм, — кажа Зося Касакоўская. — Аповед пра багатае Міхалова.

Новая Амерыка на старым кантыненце. За хлебам выязджаць ужо не трэба, бо яго найбольш тут. Усе, якія папалі на чужыну, вяртаюцеся неадкладна, — гучаць фільмавыя лозунгі.

— Фільм робім, каб паказаць, што Міхалова надта багатае, — інфармуе гімназістка Юля Чабан, — што жывуць тут выключна багатыя людзі. Маем таксама шмат турыстаў, якім у нас проста выдатна. Гэта мы так выдумалі. У Міхалове паўстала шмат новага, хочам тым пахваліцца. Не ведаю ці ёсць лепшае места ў Польшчы, чым нашае Міхалова. Працы тут пад дастаткам, хіба што хтосьці лянуецца. У апошняй міхалоўскай газеце я асабіста прачытала інфармацыю нашага бургамістра пра ўзнікненне чарговых прадпрыемстваў, а значыць і новых працоўных месц.

Галоўная мэта сапраўдна-несапраўднага міхалоўскага „мок-дакумента" — паказаць адносіны „я — іншы" і вызначыць месца шматкультурнасці ў мясцовым асяроддзі.

— Хочам, каб моладзь адчула як гэта ёсць



Удзельнікі майстар-класаў у акцыі

ствараць нешта новае, прыцягваць іншых да сваіх ідэй, мець уплыў на канкрэтныя падзеі ў наваколлі, — кажа Ганна Зялінская з варшаўскага Аб'яднання практыкаў культуры.

Сюжэты дакумента адносна міхалоўскага мінулага заснаваныя на інфармацыях даступных у тамтэйшай Майстэрні фільма, гуку і фатаграфіі Тамаша Віснеўскага.

— Тэма шматкультурнасці мне вельмі блізкая, — прызнаецца спадарыня Ганна. — Мая сям'я выводзіцца з беларускага Ружамполя, якога ўжо няма на карце. Кружыць легенда, што мой прапрадзед быў татарам.

У фільме Ганна сыграе ролю міхалоўскай жыдоўкі, выратаванай з Халакоста, дзякуючы ссылцы ў Сібір.

Французскі архітэктар Давід Дзюпоў (сапраўды кінааператар Давід Сыпнеўскі) прыедзе ў Міхалова, каб разбудаваць ратушу.

— Горад багацее, таму змены ў архітэктуры тут неабходныя, — кажа ён.

Будзе і пра немцаў, і пра беларускую вучаніцу мясцовай нямецкай школы, дзе польскай мовай карысталіся толькі на ўроках польскай мовы.

Але гэта далёка не ўсё. Міхалоўскія падапечныя Аб'яднання практыкаў культуры займаюцца адначасна аўтарскімі праектамі. Тут таксама за аснову паслужыць шматкультурнасць і ігра з памяццю — падарожжа ў прапаўшае беззваротна мінулае.

— Рыхтую выстаўку фотаздымкаў, — кажа Зося Касакоўская. — Цікавяць мяне рэчы і месцы з невядомага ўжо міхалоўскага мінулага. Займаюся гэтым упершыню. Я ўжо сфатаграфавала сляды вёсак з-пад Семяноўкі, двор у Гераніміове, цагляны завод у Лесанцы і міхалоўскі млын, які стаяў за „Бядронкай". Буду таксама шукаць інфармацый пра сінагогу і кіркут.

Юля Чабан таксама дэбютантка ў гэтай тэме.

— Мне найбольш падабаецца знаёмства з Міхаловам, а дакладна памячанне непамечанага, якое тут ёсць, — кажа школьніца.

Удзельнікі майстар-класаў спаткаліся з міхалоўскімі бабулямі, каб паслухаць, між іншым, іх любоўных гісторый. У гэтых надта інтымных аповедах найчасцей паўтараўся матыў пагранічных своеасаблівасцей: прыезду, ад'езду і пераезду.

Маладых удзельнікаў праекта падаслаў варшаўскім практыкам мясцовы цэнтр культуры. Дапамогу, між іншым пры рэалізацыі фільма, аказаў кіраўнік Майстэрні фільма, гуку і фатаграфіі Тамаш Віснеўскі. У варшаўскі праект уключыліся таксама Дыяна і Фернанда — іспанскія валанцёры з аб'яднання „Анавой", якія часова пабывалі ў Міхалове.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

9 ☞ працяг

## У Нараўцы — як у Маскве

агародчыку аздобных дыняў рабіла; іх здымкі Янка Целушэцкі дасылаў у „Зорку". А як яны не маюць чаго паказаць на дажынках, то за што ім узнагароды? Ну, але ёсць у гміне грошы, якія трэба выдаць. І найлепш даць іх камусь знаёмаму.

— А можа тыя ў камісіі бачаць, што Вас узнагароджваюць у іншых конкурсах — гафту і карункі. дык мо думаюць, што Вам узнагарод ужо хопіць. Можа думаюць: а яна хоча ўсюды дабегчы, то яе тут не пусцім...

— Але гэтыя мае ўзнагароды не з нашай гміны, яны звонку.

— А ці Вы рыхтуеце агародчык спецыяльна пад той конкурс, ці гэта адно для прыгажосці свайго панадворка?

— Я люблю прыгажосць, а паколькі ладзіцца конкурс, то і падаю туды сваю заяўку. Усе мае дзеці ў Беластоку, а я, самотна жывучы ў хаце, каб не хадзіць па суседзях, не займацца плёткамі — бо вазьмі скажы нейкае слова, то два даложаць і атрымаецца плётка — я маю занятак, нешта зраблю, мне спадабаецца, камусь спадабаецца і ёсць стымул для далейшай працы. І іконы вышываю, крыжыкам.

— А карціны, што ў Вас на сценах — таксама вышыты?

— Таксама. І весці майстар-класы па вышыўцы, карунках, гафце мяне запрашаюць, летась была ў Ласінцы, і ў Міхалове была.

— Вы маеце талент, але мабыць не толькі па вышыўцы ці гафце. У Вас напэўна выдатнае мастацкае ўяўленне, чуццё прыгажосці, Вы бачыце тую кветку загадзя, перад вышыўкай яе. Ці Вы, можа, прабавалі, напрыклад, рысаваць, маляваць?

— Спярша трэба, вядома, наштрыхаваць праект алоўкам. Вось была вышыла валошкі, куколь і жыта, як у полі. А вось сёлета браткі вышыла — усе гавораць, што яны як жывыя. А наканец то і вершыкі пачала пісаць, у „Ніве" былі. Учора, вось, напісала верш пра перапёлку. А вось іншы верш: *Чаму ў рэках плывуць хутка воды,/ Чаму жыццё так хутка плыве?/ Здаецца нядаўна цацкамі гуляла,/ А ўжо сівыя валасы на галаве.// Шкада, што жыццё кветкамі не ўслане,/ Трэба было цяжка працаваць,/ Часам ад досвітку да змяркання/ Зямельку потам паліваць.// І так гады жыцця плылі,/ Што зязюля лічыла ў цёмным бары/ І часам туман душу заімглі/ І век каротшы ўсё быў.// Жыццё ўжо прытамілася,/ Махае змучаным крылом./ Хай Бог блаславіць у жыцці,/ Каб шчасліва да Неба дайсці.*

У Галіны Бірыцкай з Плянты шматграныя здольнасці і не сумняваюся, што яна правільна бачыць эстэтычныя каштоўнасці нашага жыцця. У конкурсную ж гмінную камісію былі назначаны гмінныя радныя, у якіх сваё бачанне мастацкіх каштоўнасцей, найверагодней сфармаванае папулярным тэлебачаннем, якое сёння вельмі прапагандуе ўсялякую выгаду. Таму такія яе рашэнні, таму ў маёй гераіні пачуццё крыўды.

У цяперашнім нашым грамадскім строі мала чакаць добрай феі ў асобе разумнай цёткі, але трэба браць справы ў свае рукі. Не хопіць займацца адно вытворчасцю мастацкіх каштоўнасцей, але трэба іх яшчэ і лабаваць, няспынна круціцца каля важных шышак, трымаць іх увагу адно на сваім, не дазваляць ім падумаць пра іншае, трымаць іх пад каблуком як пад савецкай прапагандай.

*Шкада, што жыццё кветкамі не ўслане.* Што ў жыцці, як на вайне — адны падстаўляюць галовы на першай лініі, а іншыя круцяцца каля палявой кухні. У жыцці, як у гаспадарцы — адны цягнуць як конь. часам дастаючы пугою па спіне, а іншыя грэюцца на печы як кот, часам злізваючы смятанку. А ў Нараўцы, здаецца, як у Маскве, дзе савецкі народ насалоджваецца кавёрам і шампанскім вуснамі сваіх перадавых прадстаўнікоў.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Адгаданка

1. густая крупяная каша з салам, 2. вялікая палеская рака, 3. пачуццё маральнай адказнасці за свае паводзіны, 4. офіс, 5. горад між Бельскам і Белавежай, 6. жэнеўская рака, 7. бацькаўшчына, 8. вялікая фізічная або душэўная мука, 9. прозвішча Леніна, 10. дарожка ў парку, 11. вадаём у выямцы пасля дажджу.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — яўрэйская пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | | | | | | | 2 |
| | | 3 | | | | | | 4 | | | | |
| | | 5 | 6 | | | 7 | | 8 | | | | |
| | 9 | | | | | | | | | | | 10 |
| | | | | | | | | 11 | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 35 нумара**

Ака, кат, каша, кошка, туя, чужак, яд, яда, яма, яр, ясак.

Рашэнне: **Якая дошка, такая стружка, якая маці, такая дачушка**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Веры Цілюлька** с Саколкі і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 21.09 — 27.09

**Баран (22.03. — 20.04.)** Пастарайся выкарыстаць добры час на рамонты і дробныя папраўкі дома. Можа пабольваць галава, кепска спацца — будзеш слабейшы перад стрэсам; у апошні тыдзень апошні званок зяміць кепскія звычкі ў ежы. 23-27.09. хапай нагоды і трымай вочы кругом галавы: на гарызонце паявяцца доўгачаканыя шанцы. Можаш шмат зрабіць.

**Бык (21.04. — 21.05.)** 20-24.09. — карысныя нагоды ў бізнесе, удачы. Дасканала ацэніш сітуацыю і тваё рашэнне будзе трапнае. Да 23.09. можаш хораша падзейнічаць пры сваёй красе. Калі атрымаеш цікавую прапанову, добра яе абмяркуй, не лезь у рызыку. Чакаюцца большыя выдаткі, але і прыбыткі.

**Блізняты (22.05. — 22.06.)** 23-27.09. будзеш мець карысную прапанову — прымі яе, бо ёсць за што змагацца, нават калі добра пры гэтым наробішся. І не занядбоўвай старых спраў. Нават трымай пару сарок за хвост, бо добра на гэтым выйдзеш. 23-25.09. кожны новы творчы праект поўнасцю ўдасца.

**Рак (23.06. — 23.07.)** 20-24.09. прадбачваюцца турботы са здароўем, панікэнне сілы, моманты сумненняў. У гэты час не вырашай стратэгічнага, лепш нікуды не едзь. Пасля 23.09. можаш раптам прастудзіцца; будуць балець калені і ступні, лепш адразу ідзі да лекара, кладзіся у пасцель, бо калі цяпер занядбаешся, шмат месяцаў будзеш кашляць і смаркаць. 23-25.09. магчымае ня добрае знаёмства. Затое 23-27.09. вельмі добра можа табе пайсці ў фінансах, магчымасці добрага заробку, куплі танна добрай рэчы; можаш запісацца на курсы — вельмі хутка спатрэбяцца табе нованабытыя веды.

**Леў (24.07. — 23.08.)** Магчымая гайданка настрояў і раптоўная ахвота пабяздзейнічаць. Стан эйфарыі будзе пераплятацца з сумненнем і расчараваннем. Але атрымаеш карысную прапанову, калі прымеш яе, твая фінансавая сітуацыя можа вельмі моцна паправіцца.

**Дзева (24.08. — 23.09.)** Варушыся, наладжвай знаёмствы. І тваё пачуццёвае жыццё можа рушыць уперад. Будзь больш ініцыятыўным, а зацікавіцца табою хтосьці асаблівы. Будуць дакучаць табе болі ў нагах, задбай аб правільны кровазварот, не сядзі ў адной пазіцыі, насі выгаднае адзенне, шпацыруй. З 23.09. паявіцца магчымасці падзарабіць; гэтых грошай старайся не выдаваць.

**Шалі (24.09. — 23.10.)** 21-23.09. стабільна ў фінансах, інвеставанні, пачуццях. Трымай вочы вакол галавы: магчымае паяўленне асобы, хаця можа непрыкметнай, якая можа аказацца быць каханнем твайго жыцця! Большая перадышка ў здароўі. Сонца завітае ў твой знак! Калі шукаеш працу, рассылай свае CV. Але інвестуй у свой развой, каб з тлуму кандыдатаў выбралі якраз цябе.

**Скарпіён (24.10. — 22.11.)** Пільнуйся — можаш сустрэць асобу, якая можа табе зашкодзіць! У Скарпіёнаў у сталых парах час зразумення і гармоніі. А трывалую пару створыш з асобай, якая будзе таксама тваім сябрам. Зрэалізуеш смелыя задумы. Захопіш трывалосцю перад стрэсам. І паявяцца шанцы ў фінансах, аб якіх ты марыў. Але не кідайся ў пакупкі! Калі маеш сваю фірму, расшыр абсяг паслуг.

**Стралец (23.11. — 22.12.)** 23-27.09. можаш выйграць шмат грошай або атрымаць спадчыну ці падарунак! Зможаш зрабіць смялейшыя планы і падумаеш аб канкрэтных інвестыцыях. Высветліш справы, якія мяшалі ў хатнім міры.

**Казярог (23.12. — 20.01.)** 20-24.09. трымай фінансы цвёрдай рукой! 23-25.09. вельмі пільнуйся, каб не зламіць ініцыятывы, бо ход хваробы можа быць гвалтоўным. Не забудзь пра адпачынак, не жыві на ўсю катушку. А на працы і так цябе пахваляць, зможаш паказаць свае козыры!

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** Прысвяці больш увагі, каб задбаць аб свой выгляд, не скупіся на гэта. Рэагуй ужо на першыя прыкметы нейкага захворвання, дык абыдзецца без антыбіётыкаў. Цярпліва выслухай сямейныя аповеды. 20-24.09. не ўблытайся ў нейкія несумленныя гульні, не інвестуй, бо можаш шмат страціць. 23-25.09. можаш выпісці на шырокія воды, зрэалізуеш мары і планы. 23-27.09. узбуджальныя здарэнні, новыя пачуццёвыя перспектывы; цяпер пазнаныя людзі застануцца з табою на даўжэйшы час.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Добрыя лады ў пары і з іншымі людзьмі. 23-27.09. — будзеш змабілізаваны да больш рашучага дзеяння. Паявяцца новыя фінансавыя перспектывы, падпішаш важную для цябе дамову. Але 20-24.09. будзь вельмі асцярожным; не ангажуйся ў малаварты для цябе праект. Паправяцца справы ў тваіх сяброў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 000 egz.

# Украіна ў цяні вайны

Як не дзіўна, вар'яцтва, якое прадэманстраваў шафёр, прамаўляла ў абарону здаровага розуму. Ён ляснуў кулаком у свой радыёпрыёмнік, абляяў прымач і бесцырымонна закурыў. Па салоне панёсся смурод махоркі, які дадаткова, змешаны з пахам свежага балотца і чалавечага поту (чалавек — па-ўкраінску: мужчына) падзейнічаў як наркоз. Асавелыя ад спякотнага надвор'я пасажыры маршруткі, у тым ліку я і Дыяна Н., быццам адплылі ў глыбейшую фазу нірваны. Настрой падбівалі праплываючыя па-над палямі плахты імглы, якія яшчэ не паспелі развеяцца пасля начной навальніцы над Львовам.

Едучы ў напрамку польскай мяжы са Львова ў Шэгіні па самай гладкай украінскай дарозе, той самай, што адрамантавалі пад „Еўра-2012", шафёр спрачаўся з гаварыльняй па радыё. Быццам ведаў, што ачмурэнне прапагандай, хай і пазітыўнай, заўсёды прывядзе да катастрофы. Сам заўзята крытыкаваў ваенную тактыку ўкраінскай арміі, то-бок адсутнасць такой тактыкі, і разумныя мужыкі падтаквалі яму ў знак згоды. Тым часам па радыё прыгадалі мілітарны парад, які прайшоў вуліцамі сталіцы 23 верасня, у Дзень незалежнасці Украіны. Той парад, паводле дыктара, даказаў які агромністы патэнцыял і мадэрнасць ва ўкраінскай арміі! І што гэта ўсё, разам з грамадскай гатоўнасцю, прывядзе да хуткай перамогі над Расіяй... Тады шафёр выбухнуў:

— *Што ты брэшэш, бля...!* — крыкнуў.

Так, вар'яцкі ўдар і лаянка дзіўна мяне супакоілі. Большасць людзей, з якімі давялося сустрэцца ў дарозе на працягу сямі дзён падарожжа па Заходняй Украіне і Карпатыі, наракалі якраз на тэхналагічную архаічнасць ваеннай базы і недахоп зброі. Але яны верылі ў справядлівы канец. Паўтаралі: мы не бандыты, мы абаронцы айчыны.

* * *

У гэты раз, дакладна як дзесяць гадоў таму, напярэдадні Аранжавай рэвалюцыі, нешта заставіла мяне з'ездзіць ва Украіну. У пэўным сэнсе гэта быў працяг беларускіх падарожжаў, без якіх немагчыма сэнсоўна пісаць па-беларуску. Заходнеўкраінская глыбінка, не надта скажоная савецкай ідэалогіяй, адразу заваявала сардэчнае месца ў маёй душы. Тут, як на Падляшшы, жыве салідарнасць паміж жанчынамі, і перасцярога: не давяраць мужыкам! Бо ж вядома, такі звядзе з розуму, ашукае і пакіне!

Жаночы свет яшчэ наклікаў успамін вясковага дзяцінства, дзе суседак клікалі пасваяцку цёцяй, да якіх заходзілася ў хату без запрашэння, а там, калі абедалі, запрашалі за стол і частавалі ядой. Племяннное сястрынства жывое ва Украіне і само па сабе дзейнічае як ментальная страхоўка.

Асобнае месца тут займаюць месцы з жывым культам Божай Маці. У час першай пабыўкі ў Пачаеўскай лаўры я згубіла дэпрэсію і першыя прызнакі маніі пераследу. Вярнулася захапленне светам людзей і дробных рэчаў, з'явіліся новыя сябры, ідэі, кніжкі. Магчыма, той цудоўны досвед заахвочваў вяртацца і пісаць пра краіну-суседку, прабуджаную да лепшага жыцця, свабоды і сапраўднай самастойнасці. Свет спачатку захапіўся Аранжавай рэвалюцыяй, а зараз выглядае так, быццам бы не ведаў, што зрабіць з гэтым захапленнем. Надта многа тут рызыкі, замнога праблем, завялікі кошт. Нават палякі перасталі масава паломнічаць у Львоў!

Мне, аднак, хацелася пабачыць як выглядае ўкраінскае жыццё ў цяні вайны. Ды ў гэты раз хацелася як ніколі раней. Можа прамовіў страх: закрыюць мяжу і будзе як з Беларуссю! Бегай тады па іхніх консульствах, падай на твар і дрыжы, бо ніколі не ведаеш ці атрымаеш візу.

Згодна з дзесяцігадовай традыцыяй, падарожжа мы часткова адолелі аўтаспынам, ездзілі маршруткамі, нейкія адрэзкі перайшлі пешшу. Можна сказаць, што апошняя вандроўка атрымалася найбольш экстрэмальнай у эмацыйным плане, чаго, дарэчы, у глыбі душы мы чакалі. Словам, у гэты раз таксама не падвяла цудоўная выпадковасць і добрыя людзі. На нашай дарозе аб'явіліся балгары, удзельнікі рэканструкцыі „Rzeźń Wołyńska", ваўкі ў авечых шкурах, донскія казакі, наркаманы з Сяматыч, чэмпіён свету па дзюдо, бежанка з Данецка, ветэран сучаснай вайны, аматары саўны з Каламыі...

Ад некаторых прыходзілася ратавацца ўцёкамі.









* * *

Невыпадкова наш аповед адкрывае карцінка са сфрустраваным шафёрам, які шчасліва давязе нас да мяжы, а мы застрагнем у мытні з чумакамі, каб у сціску і агрэсіўнай лаянцы перакрочыць міфічную мяжу Еўрасаюза.

Раман — працілегласць шафёра маршруткі. Сем дзён раней ён падбярэ нас з мяжы ў Шэгінях у свой „мерседэс", каб прывезці ў Львоў. Яго прапанова спачатку пакажацца падазронай. За сваю паслугу ён возьме тры долары ад асобы, як у маршрутцы. Перад ім падышоў дзядзька і прапанаваў падобную паслугу *за тысёнц*...

— Я няўпэўнены, што ахвяры патрэбны, — асцярожна заяўляе Раман, — замнога гэтай крыві, замнога забітых дзяцей.

Раман мала старэйшы за мабілізаваных на фронт маладзёнаў, але думае і гаворыць як вопытны дзядзька. У сваёй стрыманасці зусім пярэчыць іміджу ваяўнічага і бясстрашнага казака. Хутчэй напамінае беларуса, якому да шчасця патрэбны работа, грошыкі і сямейная дыктатура. Цягам гадзіны, калі пад'язджаем у чарговы гарадок, пану Раману назойліва звоніць жонка, каб паставіць адно кантрольнае пытанне:

— Ну, дзе ты зараз?

— А, ужо мінулі... — пакорліва, быццам прасіў прабачэння, называе нейкую вёску.

Пасля пятнаццаці хвілін званок паўторыцца:

— Доўга яшчэ цябе выглядаць! — крычыць голас у мабілцы.

— Сонейка, — лашчыцца Раман, — завязу пасажыраў на *жэдэ* і буду з'язджаць дахаты...

Раман не прызнаецца сваёй сонейку, што яго „пасажыры" гэта дзве жанчынкі без мужыкоў. Ды і халера іх ведае — хто яны. Сапраўдныя турысты перасталі да іх прыязджаць. А гэтыя такія цікаўныя, ды ўсё пра вайну пытаюць!

Сам не жадае змагацца з сепаратыстамі. Добра ведае, які народ жыве на ўсходзе яго краіны. Штудзіраваў у Харкаве.

— Еўропа для іх, — кажа не хаваючы іроніі, — гэта адзін зброд. Яны думаюць, што ў Еўропе кожны з пісталетам ходзіць...

Кажа, што складана абараніць Данецк. Тамашнія людцы, хоць лічаць сябе найсапраўднымі ўкраінцамі, кантактуюць адно на расійскай мове.

Украінцы зусім разгубіліся хто з кім ваюе на гэтай вайне, бо іх яшчэ кругласутачна бамбардзіруюць прапагандай з Масквы. Данецкія мужыкі бягуць у Расію, там іх застаўляюць надзець зялёны мундзір і гоняць назад, каб стралялі да сваіх суседзяў, што не паспелі збегчы! Ну, чыстае безгалоўе! Апошняя рэч найбольш нервуе Рамана. Ён на міг абурэацца як казак ды рубае ў бок расіян:

— На х... мне такое братэрства!

(*працяг будзе*)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960